Бязвізавы рэжым паміж Беларуссю і Кітаем будзе ўсталяваны арыенціровачна сёлетняй восенню.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**


# Народная Воля

**№ 47 (4299)**

12 чэрвеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Дэмакратычная грамадскасць патрабуе, каб Мінскі аблвыканкам адклікаў усе ранейшыя рашэнні, звязаныя з выдзяленнем участка пад будаўніцтва рэстарана са здзеклівай назвай «Паедзем, паядзім» у некалькіх метрах ад Курапат, дзе сталінскія каты забілі многія тысячы бязвінных людзей.**

**Блюзнерства ладзіць скокі там, дзе трэба схіліць галаву і маліцца за тое, каб ніколі не паўтарылася трагедыя тых далёкіх трыццатых гадоў.**

ПРАТЭСТ

## АБАРОНА КУРАПАТ ТРЫВАЕ…

Ля ўрочышча Курапаты працягваецца акцыя пратэсту супраць таго, што побач з мемарыяльнымі крыжамі адкрываецца рэстаран “Паедзем, паядзім”.

Ад учарашняга дня пад брамай гэтай забаўляльнай установы распачалася штодзённая дванаццацігадзінная варта, мэта якой – распавядаць наведвальнікам рэстарана пра расстрэлы, якія адбываліся тут у 30-я гады мінулага стагоддзя.

– Удзельнікамі пратэсту было прынята рашэнне, што варта павінна знаходзіцца тут кожны дзень з 12.00 да 24.00, якраз у гадзіны работы рэстарана, – распавядае “Народнай Волі” адзін з удзельнікаў акцыі, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” **Павел Севярынец**. – Удзел у дзяжурстве бяруць прадстаўнікі сямі дэмакратычных арганізацый. На месцы правядзення акцыі знаходзіцца своеасаблівы “метраном”: запісаныя на аўдыё ўдары жалобнага звона. Ён уключаецца тады, калі да “Паедзем, паядзім” пад’язджаюць машыны з патэнцыяльнымі наведвальнікамі.

Хаця, па шчырасці, магу засведчыць: за ўвесь час нашага пратэсту людзей, якія хочуць паесці побач з Курапатамі, былі адзінкі. У будныя дні амаль няма – сюды прыязджаюць пастаўшчыкі прадуктаў і персанал установы. У выхадныя патэнцыяльных наведвальнікаў калі і дадаецца, то не нашмат.

**– Ведаю, вы збіраліся сустрэцца з уласнікамі рэстарана. Ці адбылася такая сустрэча?**

– Учора мы паехалі на вуліцу Казлова, 5 – там знаходзяцца офісы ўласнікаў рэстарацыі – кампаній “Белрэстінвест” і “Белноватэкс груп”. Прыехаўшы на месца, даведаліся, што кампаніі гэтыя не “фэйкавыя” – офіс сапраўды дзейсны. На дзвярах ніякай шыльды няма. Відавочна, яна там была, бо сляды ад яе на дзвярах засталіся. І ў самім офісе нехта быў. Праўда, нам не адчынілі, як мы ні грукалі ў тыя дзверы. Званок на нумар кантактнага тэлефона згаданых кампаній плёну таксама не прынёс, як толькі на тым канцы дроту пачулі, што мы хочам абмеркаваць сітуацыю вакол рэстарана ў Курапатах, дык адразу кінулі слухаўку.

Свой зварот з патрабаваннем зачыніць ці перанесці ўстанову мы пакінулі ў паштовай скрыні, якая належыць кампаніям-уласнікам “Паедзем, паядзім”.

**– Якія крокі вы будзеце рабіць далей?**

– Сёння, 12 чэрвеня, мы збіраемся наведаць Генпракуратуру, Камітэт дзяржкантролю і Мінскі аблвыканкам. У гэтыя інстанцыі намі таксама падрыхтаваны лісты. Патрабаванне ў іх утрымліваецца па сутнасці адно: зачыніць ці перанесці рэстаран у іншае месца.

Ці доўга будзе працягвацца наша акцыя пратэсту? Адкажу так: пакуль не вырашыцца праблема – будзем стаяць. Нас там няшмат – чалавек 10–15, але штодня з’яўляюцца новыя людзі. Ёсць актывісты з Мазыра, Оршы і іншых гарадоў. Так што чарговая абарона Курапат трывае…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ФАКТ

### Патрабуюцца...

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны паведаміла, што на 1 чэрвеня 2018 г. у краіне свабодныя 69,9 тысячы працоўных месцаў. І гэта ў параўнанні з мінулым годам амаль на 40 працэнтаў больш: на 1 чэрвеня 2017 г. было 50,1 тысячы вакансій. Попыт на работнікаў па рабочых прафесіях склаў 64 працэнты ад агульнай колькасці вакансій супраць 54,5 працэнта.

Што тычыцца зарплат, якія прапаноўваюцца, то яны розныя ў залежнасці ад спецыяльнасці, адукацыі і, вядома ж, рэгіёна. Так, напрыклад, медсёстрам у сярэднім прапануюць ад 300 да 700 рублёў, вадзіцелям – ад 400 да 1000, будаўнікам – ад 800 рублёў і больш.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

КОНКУРС

### Тры з трыццаці двух

Журы абрала тры эскізныя праекты памятнага знака (мемарыяла) у Курапатах. Пра гэта журналістам паведаміў рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў **Міхаіл Баразна**. У конкурсе ўдзельнічалі 32 праекты.

Начальнік упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры **Ірына Рахвалава** паведаміла, што на мемарыял у Курапатах сабрана ўжо 11.786 рублёў. Збор сродкаў пачаўся летась. Ініцыятыва па стварэнні памятнага знака ў Курапатах была агучана падчас “круглага стала”, які адбыўся ў рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия» 24 лютага 2017 года.

ХВАЛЮЮЧАЯ ПРАБЛЕМА

## На пенсію ў 63 гады?

*У Беларусі загучалі меркаванні аб тым, каб зраўняць пенсіённы ўзрост для мужчын і жанчын. На свет Божы з’явілася прапанова, каб з 2023 года яшчэ раз адсунуць узрост выхаду на пенсію для жанчын, і тады да 2032 года яны будуць выходзіць на пенсію нароўні з мужчынамі ў 63 гады.*

Галоўная прычына такога магчымага новаўвядзення – Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва быццам не хапае грошай на выплаты пенсій. Але ці вырашыць гэтая мера праблему? Ці не трапім мы ў пастку, і ў 2032 годзе зноў спатрэбіцца павялічваць пенсіённы ўзрост, таму што пакуль улады не кажуць пра іншыя меры, якія дазволілі б не дапускаць павелічэння нагрузкі на Фонд сацыяльнай абароны?

*За каментарыем “Народная Воля” звярнулася да акадэмічнага дырэктара Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC)* ***Кацярыны Барнуковай.***

– На жаль, дэмаграфічная сітуацыя складваецца зараз так, што людзей пенсіённага ўзросту будзе станавіцца ўсё больш, а працаздольнага – усё менш, – *кажа эксперт.* – Для Фонду сацабароны насельніцтва гэта азначае рост дэфіцыту фонду: выплаты растуць, а паступленні, наадварот, падаюць. Паводле нашых разлікаў, для таго каб дэфіцыт ФСАН не станавіўся занадта высокім, неабходна паступовае (да 2035 года) павелічэнне пенсіённага ўзросту і для жанчын, і для мужчын да 65 гадоў.

Што тычыцца павышэння пенсіённага ўзросту жанчынам да 63 гадоў, то, на мой погляд, гэта не толькі правільна, але і неабходна. Існуючая пенсіённая сістэма з’яўляецца дыскрымінацыйнай для мужчын, асабліва ўлічваючы, што чаканая працягласць жыцця мужчын нашмат меншая. Больш за тое, сёння многія жанчыны ўзросту 45+ дыскрымінуюцца на рынку працы з-за заніжанага пенсіённага ўзросту.

**– Але ў 65 на пенсію – гэта неяк вельмі радыкальна, многія беларусы вас не зразумеюць. Можа, спачатку, напрыклад, варта было б павялічыць пенсіённы ўзрост для людзей у пагонах?**

– Выдаткі на пенсіённыя выплаты прадстаўнікам сілавых структур ажыццяўляюцца не з Фонду соцабароны, і мы не ведаем, якія на гэта ідуць сродкі. Але я не думаю, што дадзеных ільготных катэгорый так шмат, што эканомія на выплатах ім пенсіённых дапамог істотна змяніла б сітуацыю ўвогуле з пенсіённым забеспячэннем.

На мой погляд, не трэба так баяцца павышэння пенсіённага ўзросту. Гэта не адбываецца раптоўна, а ідзе паэтапна – па паўгода ў год, так што ўвесь працэс зойме прыблізна 20 гадоў. Няма такога, што мы прачнуліся і даведаліся, што, умоўна кажучы, з 1 ліпеня пенсіённы ўзрост у Беларусі 65 гадоў для мужчын і жанчын. Іншая справа, што людзей трэба да гэтага рыхтаваць. Тыя, каму сёння 30–35 гадоў, павінны дакладна разумець, што яны стануць пенсіянерамі не ў 60 гадоў.

**– Нам часта ківаюць на Еўропу: маўляў, там даўно пенсіянерамі становяцца, калі далёка за 60. Ці карэктныя такія параўнанні?**

– Перш за ўсё некарэктныя таму, што працягласць жыцця ў Еўропе большая. Аднак і ў Беларусі працягласць жыцця даволі хутка расце. Акрамя таго, у краінах Еўропы афіцыйны пенсіённы ўзрост з’яўляецца хутчэй індыкатыўнай лічбай. Многія еўрапейцы, дзякуючы назапашвальным пенсіённым фондам, могуць самі вызначаць час выхаду на пенсію і, назапасіўшы на заслужаны адпачынак, нідзе не працаваць ужо ў 55 альбо 60 гадоў, чакаючы пенсіённага ўзросту. Але пры гэтым і там многія выбіраюць працягваць працаваць пасля дасягнення пенсіённага ўзросту, калі дазваляе здароўе.

**– Можа, і нам пара пераходзіць да назапашвальнай сістэмы пенсіённага забеспячэння і не абмяжоўвацца толькі павышэннем пенсіённага ўзросту?**

– Думаю, у рэшце рэшт уладам давядзецца пайсці на рэформу пенсіённай сістэмы, паколькі іншага выйсця няма. Але ж павышэнне пенсіённага ўзросту – гэта і ёсць першы крок. Аднак у будучым, напэўна, трэба чакаць і ўвядзення назапашвальнага элемента. Тут трэба разумець, што назапашвальная сістэма – не панацэя. Пераход на яе займае некалькі дзесяцігоддзяў, і пры гэтым часткова павінна захоўвацца і салідарная сістэма для выплаты сацыяльных пенсій. Такім шляхам, напрыклад, ідзе Польшча.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ПАРАЎНАЕМ...

## Танней, чым у канкурэнтаў?

Днямі выконваючы абавязкі генеральнага дырэктара завода «БелДжы», першы намеснік міністра прамысловасці **Генадзь Свідзерскі** заявіў, што ў жніўні будзе запушчаны ў серыйную вытворчасць бюджэтны седан Geely FE3. Прыблізны кошт навінкі – менш за 23 тысячы рублёў.

Мы вырашылі параўнаць, як гэта цана суадносіцца з маркамі аўта С-класа, якія на беларускім рынку прапаноўваюць іншыя кампаніі-вытворцы, тым больш што на беларуска-кітайскім заводзе менавіта з выхадам седана на рынак разлічваюць на павелічэнне продажу Geely. Не так даўно начальнік камерцыйнай службы «БелДжы» **Кірыл Шаламіцкі** ў інтэрв’ю нашаму выданню заяўляў: “*Седан Geely FE3 – аўтамабіль класа Volkswagen Jetta, яго кошт будзе істотна ніжэй у параўнанні з флагманскай мадэллю Geely Atlas*”.

Трэба адзначыць, што прапаноў новых седанаў на рынку сёння дастаткова. А вось па якім кошце?

**Nissan Almera** – ад 18.900 рублёў,
**Volkswagen Polo** – ад 21.810,
**Kia Rio** – ад 24.900,
**Hyundai Accent** – ад 24.900,
**Ford Focus** – ад 28.840,
**Toyota Corolla** – ад 33.150,
**Skoda Octavia** – ад 34.162,
**Volkswagen Jetta** – ад 35.330 рублёў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

XVIII НАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЕСТЫВАЛЬ

# Фінберг – з Лучанком!

*Канцэрт “Мелодыя лёсу” ў гонар славутага кампазітара – самая яркая і ўрачыстая старонка традыцыйнага маладзечанскага фэсту*

У дзень адкрыцця XVIII нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне прыкметна пашчыраваў заслужаны калектыў “Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі”, яго мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор, народны артыст нашай краіны, прафесар Міхась Фінберг. З 10.30 і з 15.30 у канцэртнай зале Палаца культуры праводзіліся два туры рэспубліканскага этапу конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні, працавала журы на чале з М.Я.Фінбергам, падводзіліся вынікі гэтага напружанага спаборніцтва.

Неардынарнай падзеяй сталася ў выставачнай зале адкрыццё выставы творчых работ удзельнікаў мастацкага пленэру “Святасць зямлі беларускай” – “Наша Радзіма вачыма мастакоў свету”. Аматары тэатральных відовішчаў паглядзелі спектакль Мінскага абласнога драмтэатра “Вечар” па п’есе выдатнага драматурга Аляксея Дударава.

А ў 21.30 пад адкрытым небам у летнім парку адбылося афіцыйнае адкрыццё фестывалю, гучалі цёплыя і, дзякуй Богу, непрацяглыя прамовы начальства, уручэнне дыпломаў удзельнікам конкурсу і прэмій тром пераможцам. Гран-пры гэтым разам не ўганаравалі нікога…

На маю думку, галоўнай падзеяй на фестывалі стаўся канцэрт “Мелодыя лёсу” – да 80-годдзя з дня нараджэння Ігара Міхайлавіча Лучанка, народнага артыста СССР і Беларусі. Заўважу, яго юбілей адбудзецца ўлетку – 6 жніўня. І дадам: Ігар Лучанок нарадзіўся ў Мінску, а не ў Мар’інай Горцы, што звычайна можна пачуць з вуснаў вядучых розных праграм.

Міхась Фінберг зладзіў канцэртную праграму выключна сіламі свайго калектыву



музыкантаў і вакалістаў. Што да твораў кампазітара, то меўся велізарны выбар. Вядома, адных толькі хітоў у яго набярэцца на паўнавартасны канцэрт. Гэта і песні на вершы нашых класікаў – Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Аркадзя Куляшова – “Спадчына”, “Мой родны кут”, “Вераніка”, “Алеся”, і не менш запатрабаваныя песні: “Жураўлі на Палессе ляцяць” (словы Алеся Ставера), “Зачараваная мая” (словы Генадзя Бураўкіна), “Полька беларуская” (словы Леаніда Дранько-Майсюка) і многія-многія яшчэ… Але Міхась Фінберг пайшоў сваім шляхам, – уключыў у праграму побач з вядомымі ў свеце нацыянальнымі залацінкамі Ігара Лучанка яго папулярныя песні мінулых гадоў, створаныя на аснове рускамоўных тэкстаў. Трэба аддаць належнае нашаму фестывальнаму босу: ён знайшоў магчымасць перастварыць па-беларуску тыя рэчы, у выніку былі цудоўна прыняты шматлікай публікай песні “Юнацтва маё”, “Брыганціны”, “Я прыйду”, “Дзе юнацтва бераг дальні?” ды іншыя.

Да ўдзелу ў такой незвычайнай фестывальнай вечарыне М.Я.Фінберг запрасіў паэта Леаніда Дранько-Майсюка і мяне, грэшнага. Перш чым прачытаць вершы, мы з Леанідам, натуральна, акцэнтавалі ўвагу на жыццядайнай творчасці вялікага нацыянальнага кампазітара Ігара Лучанка, які, зрэшты, ніколі не замыкаўся толькі ў нацыянальных межах сваёй плённай творчасці. Невыпадкова ён першы з беларусаў стаў уладальнікам імяннай зоркі на Плошчы зорак эстрады ў Маскве.

Падчас завяршэння канцэрта з боку бліжняга азярца пацягнула начным халадком. Але настрой у шматтысячнай публікі быў прыўзняты, людзей сагравалі песні славутага творцы і ягоная прысутнасць на свяце музыкі і паэзіі.

Пасля шчодрага, яскравага феерверку над паркам і летнім тэатрам горада, калі я падышоў да Ігара Лучанка з неадольным жаданнем паціснуць яму руку, ён прыязна ўсміхнуўся і сказаў: “Вось так і ствараецца культ асобы”. Такія словы знакамітага кампазітара прагучалі для мяне прыемнай неспадзяванкай. “Гэта – не грэх, калі ёсць асоба. Горш, калі культ ствараецца там, дзе няма асобы”, – адказаў я. І міжволі ўспомніўся мне верш незабыўнай зямлячкі, лаўрэаткі Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы – Жэні Янішчыц “Адносна культу”, дзе ёсць такія словы:

*Зведаў край наш нямала пакут,*
*Каб застацца народу – народам.*
*Узвядзіце культуру ў культ,*
*Каб халтура не ведала ходу!*
*Стрэсы нас даганяюць, інсульт,*
*Хцівасць нас даганяе драпежная.*
*Узвядзём жа культуру ў культ,*
*Ачышчэнне душы – непазбежна!*

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

**На фота: намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Віктар Сірэнка ўручае Ігару Лучанку дыплом і пасведчанне Ганаровага грамадзяніна Мінскай вобласці.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ



# Иван ДЫРМАН: «НЕ ДАЙ БОГ НИКОМУ ТУДА ПОПАСТЬ…»

*Как сообщалось, на минувшей неделе в жодинской тюрьме №8 прошло очередное заседание общественного совета при МВД.*

*«Обсуждалось состояние положения дел и перспективы развития уголовно-исполнительной системы МВД Беларуси, – читаем на сайте МВД. – Программа предусматривала знакомство с работой учреждения, обмен мнениями по совершенствованию работы пенитенциарной системы».*

*Условия в жодинской тюрьме правозащитники называли суровыми, там умирали заключенные.*

*Но на фотографиях, размещенных на сайте МВД, не тюрьма, а просто какой-то курорт или отель со звездами! Обед из трех блюд, белая стеклянная посуда, свежие скатерти, салфетки, на кроватях – белое белье…*

*«Народная Воля» попросила поделиться своими впечатлениями от визита в одну из самых страшных белорусских тюрем члена общественного совета МВД, председателя центрального совета республиканского государственно-общественного объединения «Добровольное общество содействия армии, авиации и флоту Республики Беларусь» генерал-майора запаса Ивана Дырмана.*

– Нам показывали, как готовят пищу, как лечат заключенных, как налажена их жизнь, – *рассказывает Иван Васильевич*. – На первый взгляд сложилось впечатление, что там порядок, все в рамках правового поля. И принципиально все запрограммировано так, чтобы не унижать достоинство людей. Везде стоят видеокамеры, которые фиксируют, что происходит на территории. Какими должны быть порции еды, сколько длится прогулка – там настолько все четко расписано, что отклониться от этой программы ни осужденные, ни руководство тюрьмы не могут.

Мы несколько часов там были. Прошли по этажам, по подвалам. Осужденных там выводят и заводят в помещение не по одному, а группами. Я видел там телевизоры, книги, шахматы, шашки. Я в тюремном деле не большой профессионал, но то, что я увидел… Мне показалось, там созданы условия для того, чтобы конфронтация между охраняющими и охраняемыми была невозможна.

**– Не было ощущения, что специально к визиту членов общественного совета при МВД и салфетки на стол поставили, и скатерти постелили, и белое постельное белье?**

– Там сварные конструкции везде, и распорядок дня устоявшийся. Поэтому предположить, что могли изменить интерьер специально для нас… Если бы красили что-то, то, наверное, запах краски остался бы…

А что касается белья, то я не сказал бы, что оно было уж сильно белое. Видно, что далеко не первой категории, не раз стиранное. Но действительно, выглядело все чисто и опрятно.

**– А посуда? Не алюминиевая, фарфоровая?**

– Посуда, которую нам показывали, совершенно обычная и недорогая. Но я видел там не только стеклянную посуду, как на фото, но и, например, алюминиевую…

Нам еще, кстати, показали продукцию, которую производят в колониях. На примере жодинской тюрьмы нам рассказали, как функционирует вся система Департамента исполнения наказаний.

**– На территории колонии стоит красивая мебель, скамейки с резными спинками…**

– Как я понял, эти скамейки привезли из тех мест, где их делают. Специально, чтобы нам показать. Но нам ведь не только мебель показывали, но еще и клюшки, спецодежду и прочее. Все в комплексе.

**– Знаю, что вы общались с заключенными. Один из членов общественного совета сухо сказал: жалоб у них ни на что не было…**

– Мы были в одной или двух камерах. Начальник тюрьмы задавал заключенным вопросы, а они отвечали.

**– Наверное, если при начальнике тюрьмы пожалуешься на невыносимые бытовые условия, то последствия не заставят себя долго ждать?..**

– Как вам сказать… Там очень строгие условия. И запустить в камеру к заключенным кого-то без сопровождения сотрудников колонии – всякое может быть, сами понимаете…

**– О каких-то проблемах пенитенциарной системы, требующих безотлагательного решения, во время вашего визита в жодинскую тюрьму шла речь?**

– Говорили, что Республиканский медицинский тюремный комплекс возводится, строительство заканчивается. Я спрашивал, какие проблемы есть. Глава Департамента исполнения наказаний Олег Маткин довольно внятно отвечал на вопросы, обо всем рассказывал.

**– Жодинская, на ваш взгляд, вполне комфортная?**

– Знаете, я не стал бы отвечать на этот вопрос. Потому что не дай Бог… Не дай Бог никому туда попасть!

Но нас убеждали, что там создаются весьма достойные условия. Однако еще раз подчеркну: я не специалист по тюрьмам. Я вам просто рассказал то, что увидел…

ЗАКУЛИСЬЕ

## Что осталось за кадром?

Спортсмен и депутат **Вадим Девятовский** и председатель правления МОО «Гендерные перспективы» **Ирина Альховка**, которые также входят в общественный совет МВД, в жодинскую тюрьму не попали.

*«Я был в командировке на Кубке страны, но так совпало…»* – сказал Девятовский.

*«Знаю, что планировалась поездка в тюрьму, но не присутствовала на заседании совета – у меня была конференция по устойчивому развитию»*, – объяснила Ирина Альховка.

Глава Департамента исполнения наказания МВД генерал-майор **Олег Маткин** прокомментировал визит членов общественного совета МВД в жодинскую тюрьму кратко: *«Люди увидели, как налажена жизнь и быт данного учреждения»*.

В коротком ролике, размещенном на сайте МВД, оператор показывает, как во время ознакомительной прогулки по территории колонии члены совета разглядывают продукцию, сделанную в исправительных учреждениях. Председатель правления ЗАО «Второй национальный телеканал» подполковник юстиции в запасе **Марат Марков** заинтересованно присматривается к высоким ботинкам на шнуровке.

Академика, бывшего ректора БГУ **Сергея Абламейко** привлекли деревянные шахматы и резные фигуры зверей.

Всем членам общественного совета предлагали продегустировать тюремный хлеб – буханок на столе лежало много. Многие бывшие белорусские заключенные, прошедшие тюремные университеты, в один голос отмечали: *«Хлеб очень плохой. В нем все время попадались большие комки непропеченной муки. Мука низкого качества. Белый хлеб и черный тяжело различить между собой – они одинаково серого цвета». А вот* художник-скульптор **Александр Дранец** жодинский хлеб съел с большим удовольствием.

*«Я попробовал хлеб…* – сказал Дранец. – *И такого вкусного хлеба, натурального вкуса я, пожалуй, не пробовал с детства… Замечательный хлеб, замечательная продукция…»*

Два года назад примерно в таком же ключе высказалась певица и депутат Палаты представителей **Ирина Дорофеева** после посещения могилевской тюрьмы №4.

*«Питание на высшем уровне, как в ресторане, признаюсь честно, я даже попробовала – очень вкусно»*, – насмешила тогда всех артистка, которая призналась, что в тюремной столовой съела лишь соленый огурец.

ДРУГОЙ ВЗГЛЯД

## «Народная Воля» попросила некоторых бывших сидельцев вспомнить свои будни в жодинской тюрьме.

**Анатолий ШУМЧЕНКО, лидер РОО «Перспектива»:**

– У меня было с чем сравнивать. Когда меня арестовали, то вначале отвезли в изолятор временного содержания на Окрестина. Там как раз недавно прошел ремонт и условия были более-менее приближенные к тем, что запечатлены на фотографиях с сайта МВД. Там была горячая и холодная вода. А когда на следующий день привезли в Жодино, я ужаснулся. Мрачные стены, был страшный холод, а батареи не включали. Мне врач выписал таблетки, и когда я клал одну рядом с собой, она через час просто таяла, такая огромная влажность была в камере!

Ни кружек, ни чашек нам не давали. Выдавали лишь алюминиевые «зечки» на время завтрака, обеда или ужина, и после приема пищи их сразу забирали. Вода в камере была только холодная. Попить можно было только набрав воду в пригоршни.

Атмосфера там просто ужасная. Там мрачно все: от стен и потолка до лиц охранников. Возможно, кого-то и содержат в таких образцово-показательных камерах, но для большинства, думаю, созданы такие условия, в которых отбывал наказание я и многие другие.

**Валерий ЩУКИН, пенсионер, правозащитник:**

– Я сидел в 2001 году, миски алюминиевые тогда еще точно были.

Что касается питания, то у жодинской тюрьмы есть подшефное хозяйство, поэтому мяса в меню тамошним заключенным попадает несколько больше, чем в других аналогичных исправительных заведениях. В еде я неприхотлив, ем все, что дают, так что я там не голодал, плюс ссобойки мне передавали. Дело в том, что у меня с детства страх голода, поэтому голодовку в тюрьме я не объявлю ни при каких обстоятельствах.

Знаю, что на Западе в некоторых тюрьмах можно готовить самому, но до нас этот прогресс еще не дошел.

У нас были проблемы с прогулкой. Положено час быть на свежем воздухе. А нас выводили максимум минут на 15. Я начал жаловаться и добился, чтобы мы гуляли столько, сколько положено…

**Александр КОЗУЛИН, экс-ректор БГУ и экс-кандидат в президенты Беларуси:**

– Из всех белорусских тюрем у жодинской – самая наихудшая слава. Это знают все, кто прошел по различным этапам. Жодинская тюрьма – это полный беспредел!

Более жесткого отношения, чем в Жодино, я не встречал нигде. Там контролеры не дают тебе ни секунды покоя. В силу того, что я интересовался психологией, стал набрасывать в камере психологические портреты личностей охранников. На протяжении месяца делал в тетради заметки о поведении контролеров и сотрудников администрации. А потом отдал свои записи начальнику тюрьмы с соответствующими комментариями. Для него это был эффект разорвавшейся бомбы! Когда есть профессиональный взгляд со стороны на работу твоих подчиненных, сначала, конечно, возникает определенный шок. Потом у нас состоялся разговор и он объяснил, что испытывает острую нехватку кадров, на тот момент был 30-процентный некомплект сотрудников. На вакантные должности брали почти всех, кто хотел. Но вы сами понимаете, что человек со здоровой психикой вряд ли согласится на такую работу…

Ни в одной тюрьме я не видел стеклянной посуды. Это просто смешно! Везде алюминиевая!

Ну а про все остальное в жодинской тюрьме даже говорить не хочется. Повторю только, что это тюрьма с самой худшей репутацией…

*(Понятно, что воспоминания А.Козулина относятся к тем годам, когда он был репрессирован властями. – **Ред.**)*

**Алесь БЕЛЯЦКИЙ, правозащитник:**

– Больше всего на снимках из жодинской тюрьмы меня удивила столовая. Потому что я точно знаю, что там посуда алюминиевая, всем выдают алюминиевые кружки без ручек. Когда что-то из них пьешь, обжигаешь губы. Еще дают алюминиевые миски, в которые тебе кидают и первое, и второе блюдо. А на снимках с сайта МВД – каждое блюдо в отдельной тарелке. Это, видимо, столы накрыли специально для членов общественного совета МВД и подчиненных Шуневича.

Я вообще не понимаю, для чего делают такие постановочные снимки, которые не имеют отношения к реальной тюремной жизни. Что этим хотят показать? Что у них там суперские люксовские условия? Но ведь все, кто сидел в жодинской тюрьме, знают, что все это – неправда!

**Марина КОКТЫШ.**

***P.S.** Надеемся, редакция получит более свежую информацию от тех, кто сейчас отбывает наказание в жодинской тюрьме №8. «Народная Воля» – за объективность, правдивое отражение действительности.*

ХВАЛЮЮЧАЯ ПРАБЛЕМА

# На пенсію ў 63 гады?

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

ФАКТ

## Мільёны бюджэтных грошай

Сапраўды, апошнія гады сітуацыя ў пенсіённай сістэме настолькі дрэнная, што з 2014 года ўтварыўся дэфіцыт пенсіённага фонду і ўладам нічога не застаецца рабіць, як закладваць у рэспубліканскі бюджэт яшчэ адзін артыкул выдаткаў – на выплаты ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Прычым з кожным годам яны павялічваюцца.

Так, на гэты год запланавана накіраваць з бюджэту ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва 1 мільярд 459 мільёнаў 569 тысяч 877 рублёў. У мінулым годзе гэтая сума складала 741 мільён 22 тысячы 100 рублёў, у 2016 годзе – 581 мільён 287 тысяч 300 рублёў. І гэта пры тым, што пенсіённая рэформа ў частцы павелічэння пенсіённага ўросту ўжо пачалася. Летась колькасць атрымальнікаў пенсій у краіне скарацілася на 25,6 тысячы чалавек у параўнанні з 2016 годам.

Каб зразумець, наколькі істотныя выплаты з дзяржбюджэту ідуць на пенсіі, дастаткова сказаць, што на ахову здароўя і адукацыю з дзяржбюджэту сёлета плануецца выдаткаваць менш сродкаў. На ахову здароўя – каля 895 мільёнаў, на адукацыю – 877,4 мільёна.

### У якім узросце выходзяць на пенсію ў іншых краінах

| Краіна | Узрост выхаду на пенсію для жанчын | Узрост выхаду на пенсію для мужчын | Заўвага |
|---|---|---|---|
| Расія | 55 | 60 | Плануецца павышэнне ўзросту выхаду на пенсію да 63 гадоў у мужчын і 60 гадоў у жанчын. |
| Казахстан | 58,5 | 63 | З 1 студзеня 2018 года падвышаецца пенсіённы ўзрост жанчын і з 1 студзеня 2027 года дасягне 63 гадоў |
| Украіна | 55 | 60 | Узрост выхаду на пенсію ва Украіне змяняць не сталі, але, каб выйсці на заслужаны адпачынак, трэба мець 30 (для жанчын) і 35 гадоў (для мужчын) страхавога стажу. Павелічэнне стажу ідзе паэтапна. |
| Польшча | 60 | 65 | Рэформа, якая прадугледжвала павышэнне ўзросту да 67 гадоў для абодвух полаў, спынена. |
| Літва | 60 | 62,5 | Ідзе паступовае павышэнне ўзросту, і ў 2026-м жанчыны і мужчыны будуць выходзіць на заслужаны адпачынак у 65 гадоў. |
| Латвія | 62 | 62 | З 1 студзеня 2025 года ўзрост павялічыцца да 65 гадоў. |
| Германія | 65 | 65 | Да 2030 года пенсіённы ўзрост будзе павялічаны да 67 гадоў. |
| Вялікабрытанія | 65 (з лістапада 2018) | 65 | Прапануецца павялічыць пенсіённы ўзрост як для мужчын, так і для жанчын да 66 гадоў да кастрычніка 2020 года і далей як мінімум да 68 гадоў. |
| ЗША | 67 | 67 | |

ШТРЫХ

## Пенсіённы ўзрост, бальнічныя, дэкрэтныя

*Што яшчэ разглядаецца ўладамі як мера зніжэння нагрузкі на Фонд сацабароны?*

На праславутай нарадзе экспертаў у Савеце Рэспублікі, якая прайшла 7 чэрвеня і на якой абмяркоўвалася пытанне хранічнага дэфіцыту Фонду сацыяльнай абароны, гучалі і такія прапановы:

– не аплачваць бальнічныя работнікам у сувязі з агульным захворваннем або бытавой траўмай першыя тры каляндарныя дні, а аплачваць іх толькі з чацвёртага дня часовай непрацаздольнасці;

– выдаткі на выплату дапамогі па доглядзе інвалідаў першай групы і састарэлых, якія дасягнулі 80 гадоў, перакласці на рэспубліканскі бюджэт (зараз гэта аплачваецца са сродкаў ФСАН);

– скараціць дэкрэтны адпачынак да 2 гадоў (дапамогі па доглядзе дзіцяці да трох гадоў выплачваюцца за кошт сродкаў ФСАН).

Адным словам, паказальныя прапановы для сацыяльна арыентаванай дзяржавы. Як кажуць, без каментарыяў.

Дарэчы, нядаўняе даследаванне, праведзенае ва Украіне Фондам ААН у галіне народанасельніцтва, паказала, што з улікам працягласці жыцця і яе якасці, больш прыдатны ўзрост выхаду на пенсію для ўкраінцаў – 60 гадоў для абодвух палоў. Пагадзіцеся, узровень жыцця беларусаў і ўкраінцаў не вельмі адрозніваецца. Магчыма, такая выснова фонду актуальна і для Беларусі. Хаця ў незалежных экспертаў іншае меркаванне – яны кажуць пра 65 гадоў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

АФІЦЫЙНА

## «Цяпер якіх-небудзь змяненняў не плануецца»

– Адбылася актыўная дыскусія, у час якой гучалі самыя розныя, у тым ліку і альтэрнатыўныя пункты гледжання: аб павышэнні пенсіённага ўзросту для жанчын, пераглядзе аплаты працы ў бюджэтнай сферы, увядзенні ўмоўна назапашвальнай пенсіённай сістэмы, дадатковых карпаратыўных сістэм і іншыя, – *заявіла БЕЛТА прэс-сакратар Савета Рэспублікі Вольга Казловіч пасля планавага пасяджэння секцыі навукова-кансультатыўнага савета па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця ў верхняй палаце 7 чэрвеня.* – Кожны з прысутных экспертаў мог выказаць свой пункт гледжання. Аднак нельга ацэньваць агучаныя меркаванні як адпрацаваныя прапановы. Умовы ажыццяўлення паэтапнай пенсіённай рэформы ў Беларусі вядомыя і празрыстыя. Цяпер якіх-небудзь змяненняў не плануецца… Стаіць задача, каб сярэдняя пенсія складала не менш за 40 працэнтаў ад сярэдняй заработнай платы па краіне. Гэта залежыць ад збалансаванасці Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва і магчымасцяў рэспубліканскага бюджэту.

ВІНШУЕМ!

## Вячаслаў ХАРАНЕКА: «Адчуваю сябе як Карлсан…»

*Нядаўна вядомы беларускі спартсмен Вячаслаў Харанека адсвяткаваў 57-ы дзень нараджэння. Дата неюбілейная, таму святкаванне прайшло без пампезнасці – за святочным сталом сабраліся толькі родныя і самыя блізкія славутага гіравіка.*



– Я не адчуваю сябе пажылым ці старым чалавекам, – *прызнаецца асілак.* – Увогуле, не вельмі люблю зазіраць ва ўласны пашпарт. Не важна, колькі табе гадоў, важна, на колькі ты сябе адчуваеш…

**– І што вам падказвае гэтае адчуванне?**

– Я не дзякую, каб казаць, што мне “заўжды васямнаццаць”, але і паверыць, што хутка будзе шэсць дзясяткаў гадоў, як я жыву на гэтым свеце, не магу. Адчуваю сябе як Карлсан – мужчынам у самым росквіце сіл.

**– З якімі пачуццямі азіраецеся на пражытыя гады?**

– Жыву заўтрашнім днём. Азірацца не мае сэнсу, у мінулым нічога ўжо не зменіць і не выправіць. Заўважыў толькі, што з узростам стаў менш зацыклівацца на нейкіх матэрыяльных рэчах. Зразумеў: што падарылі – не важна, куды больш важна – хто пра цябе ўспомніў, хто пазваніў. Дзякую, што і “Народная Воля” не забывае! Чытаю вашу газету. Падабаецца.

Таму дарагіх падарункаў не чакаў. Іх і не было. Сабраліся за святочным сталом з самымі блізкімі, паднялі па тры кілішкі каньяку, пагаманілі. Вось і ўсё святкаванне.

Яшчэ раз скажу: матэрыяльныя рэчы мяне перасталі хваляваць, галоўнае – каб было здароўе. А яно, дзякуй богу, пакуль дазваляе мне штодня падцягвацца на турніку па некалькі дзясяткаў разоў, адціскацца ад падлогі дый паўнавартасна жыць… Гэта, бадай, самае галоўнае.

**– У гэтым годзе прайшоў першы Кубак вашага імя. Прыемна?**

– Прыемна, што здарылася гэта яшчэ пры маім жыцці. Турнір прайшоў у Асіповічах пры добрай спонсарскай падтрымцы. Дарэчы, гэта быў першы выпадак, калі пераможцы атрымалі грашовыя прызы – па 300 рублёў. Лічу тое сапраўдным дасягненнем, бо раней усё абмяжоўвалася кубкамі ды ганаровымі граматамі. Спадзяюся, што Кубак на прызы Вячаслава Харанекі стане традыцыйным.

**– Але і самі вы сыходзіць з памоста не збіраецеся?..**

– Рана яшчэ мне ў пенсіянеры. У мяне безліч планаў і задумак. Зараз на маім рахунку 156 афіцыйных рэкордаў, дзесяць апошніх я ўстанавіў лежачы пасля перанесеных аперацый на нагах. У гэтым годзе планую ўстанавіць яшчэ некалькі дасягненняў – да бліжэйшага старту застаецца менш за месяц. Выйду, а дакладней – лягу на памост 3 ліпеня. За паўгадзіны паспрабую ўзняць 32-кілаграмовую гіру тысячу разоў…

У наступным годзе хацелася б выступіць на адкрыцці II Еўрапейскіх гульняў. Дарэчы, ва ўладныя кабінеты я ўжо закінуў гэтую прапанову, але пакуль станоўчага адказу адтуль няма…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## «Белгазпрамбанк» выдаў Алексіевіч

Пакуль беларускія чытачы чакаюць даўно абяцанага выдавецтвам “Логвінаў” пяцітомніка Святланы Алексіевіч, “Белгазпрамбанк” выдаў яе дакументальна-мастацкую хроніку “Галасы Утопіі” пад адной вокладкай. У выданне ўвайшлі ўсе пяць кніг першага ў гісторыі Беларусі нобелеўскага лаўрэата – “У вайны не жаночы твар”, “Апошнія сведкі”, “Цынкавыя хлопчыкі”, “Чарнобыльская малітва” і “Час сэканд-хэнд”. Гэта апошняя аўтарская рэдакцыя вядомых твораў у найноўшым беларускім перакладзе. Пісьменніца дапрацавала хроніку: аднавіла цэнзурныя скарачэнні, далучыла новыя эпізоды і старонкі з уласнага дзённіка. Выданне прызначаецца для сяброў і партнёраў “Белгазпрамбанка” і ў вольны продаж не паступіць. Нягледзячы на тое, што аб'ёмны фаліянт налічвае аж 1138 старонак, важыць ён усяго 1580 грамаў.

РЭГІЁН

## У Агародніках з'явіўся памятны знак Уладзіміру Дубоўку

На Пастаўшчыне прайшоў трохдзённы міжнародны фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”. У ім бралі ўдзел аматарскія ансамблі народнай музыкі з усіх абласцей Беларусі і пяці замежных краін – Расіі, Латвіі, Літвы, Эстоніі і нават далёкай Індыі. Фестывальныя мерапрыемствы адбываліся на 15 пляцоўках у раённым цэнтры і ў вёсках Пастаўшчыны.

Падчас фестывалю ў вёсцы Агароднікі быў адкрыты памятны знак выдатнаму беларускаму паэту Уладзіміру Дубоўку, які там нарадзіўся. У 1930 годзе ён быў беспадстаўна арыштаваны органамі НКУС і больш за 20 гадоў правёў у лагерах і на высылцы ў розных рэгіёнах СССР. Летась сталічнае выдавецтва “Лімарыус” выдала двухтомнік У.Дубоўкі, падрыхтаваны Ганнай Севярынец.

**Міхась ЗАГОРСКІ.**

ЗНАЙ НАШИХ!

## Петров на «Бельведере»



Только что стало известно, что молодой солист Большого театра оперы и балета Беларуси Павел Петров стал третьим на престижном международном оперном конкурсе «Бельведер-2018», который в этом году проходил в Юрмале (Латвия).

Конкурс «Бельведер» отличается от других оперных состязаний тем, что певцов оценивает жюри, в состав которого входят интенданты крупнейших оперных театров мира, агенты и представители медиажюри. Главными призами победителям конкурса являются ангажементы.

Тенору Павлу Петрову 26 лет, в Большом театре он служит уже шесть лет, так как был зачислен в труппу еще на втором курсе Академии музыки. Буквально сразу певец был введен в репертуар театра. Сейчас Павел Петров поет главные партии в «Евгении Онегине», «Алеко», «Травиате», «Царской невесте», а также много гастролирует в театрах Граца и Цюриха. Наверняка после «Бельведера» зарубежная карьера нашего соотечественника станет еще более успешной. Чему, конечно, нельзя не порадоваться.

**Елена МОЛОЧКО.**

ЧУЛІ?

## Дар'я Домрачава – зорка Садружнасці…

Міждзяржаўнай прэміяй “Зорка Садружнасці” чатырохкратная алімпійская чэмпіёнка па біятлоне Дар'я Домрачава ўганаравана па выніках 2017 года. Разам з Домрачавай узнагароду атрымалі дырыжор Юрый Башмет, скрыпачка Айман Мусахаджаева (Казахстан), паэт Нізом Касім (Таджыкістан) і кампазітар Сцяпан Шакаран (Арменія), філолаг Наргіз Пашаева (Азербайджан), літаратуразнаўца Абдылдажан Акматаліеў (Кыргызстан) і фізік Іён Бостан (Малдова). Урачыстая цырымонія ўзнагароджання адбудзецца на XIII Форуме творчай і навуковай інтэлігенцыі дзяржаў-удзельніц СНД 19–20 чэрвеня ў Астане.

Уладальнікам прэміі ўручаюць дыплом, ганаровы знак і 2 мільёны расійскіх рублёў.




ПАМЯТЬ

## В полях за Вислой сонной лежат в земле сырой…

*Эта цифра не может не впечатлить: в Польше похоронено около 20 миллионов солдат разных национальностей. Так сложилась история соседней страны, что ее территория стала ареной многих сражений и войн, включая Первую и Вторую мировые. В последнюю войну, по официальным данным, в польской земле навсегда остались лежать более 600 тысяч бойцов Красной Армии. Исследователи добавляют к этой цифре еще 1.000.000 погибших военнопленных.*

### Почему полякам не по душе серп и молот?

Как поляки относятся к военным захоронениям? Лучше дать возможность один раз все увидеть своими глазами, чем сто раз объяснять заочно. Руководствуясь этим принципом, МИД Польши и пригласил в конце мая группу белорусских журналистов вместе с представителями Первого канала России, аккредитованными в Беларуси, в Варшаву. Польская сторона подготовила весьма насыщенную программу: встречи с представителями Министерства иностранных дел, Министерства культуры и национального наследия, руководством Бюро по увековечению борьбы и мученичества Института национальной памяти, а также посещение Музея Варшавского восстания, легендарной крепости Осовец и, конечно же, воинских кладбищ в разных регионах страны.


Памятник советским солдатам на кладбище в Брудно.

Первая встреча – в Министерстве иностранных дел, где нам сразу же озвучили официальную позицию: Польша четко разделяет свое отношение к воинским захоронениям, на которых лежат погибшие солдаты и жертвы Второй мировой, и тем, что является символическими памятниками, доставшимися от Советского Союза. Кладбища и захоронения достойны памяти и уважения. За ними ухаживают, регулярно приводят в порядок, подновляют, если надгробия обветшали. В обязательном порядке останки каждого обнаруженного в ходе поисков солдата Второй мировой эксгумируют и переносят на общие воинские кладбища. Для поддержания захоронений в надлежащем состоянии из государственного бюджета Польши регулярно выделяются немалые денежные средства. В соответствии с договором между двумя странами вносит свою финансовую лепту в благоустройство воинских кладбищ с могилами советских солдат и Россия.

А вот поставленные в Польше в послевоенные годы по инициативе СССР памятники подлежат сносу. За исключением тех, что находятся на территориях кладбищ и захоронений, недоступны общественности, а также представляют культурную и общественную ценность или внесены в учет достопримечательностей.

Столь четкая дифференциация прописана в Законе «О запрете пропаганды коммунизма или иного тоталитарного строя», обязательном для исполнения в каждом воеводстве страны.

### Справка «Народной Воли»

*Закон «О запрете пропаганды коммунизма или иного тоталитарного строя» действует в Польше с апреля 2016 года. В соответствии с ним нельзя называть улицы, школы, больницы и прочие заведения в честь героев или событий, прославляющих коммунизм и другие тоталитарные режимы. В июле 2017 года президент Польши **Анджей Дуда** подписал поправки в закон, расширив перечень объектов, попадающих под запрет. Барельефы, памятники, обелиски с коммунистической символикой, стоящие в людных местах и не представляющие художественной ценности, подлежат сносу. Поправки вступили в действие 21 октября прошлого года.*

*Казалось бы, сугубо внутреннее дело соседней страны – решать, как ей поступать с «подарками Кремля». Однако ясно выраженная позиция Польши вызвала неодобрительную реакцию Москвы и породила откровенные спекуляции в российских СМИ. Мол, Польша уничтожает памятники советским воинам, которые принесли ей освобождение от гитлеризма. Закон о декоммунизации в России назвали законом о сносе памятников.*

### Вспоминая Катынь и Куропаты

Польша сносит лишь символические памятники, под которыми не захоронено ни одного солдата, объяснил ситуацию на встрече с белорусскими журналистами вице-министр Министерства культуры и национального наследия Польши **Ярослав Селлин**. И добавил, что если красные звезды на захоронениях как символ принадлежности солдат к Красной Армии допустимы для поляков, то серп и молот ассоциируются у польской общественности с тоталитаризмом и репрессиями. Горькая правда истории состоит в том, что 1 сентября 1939 года на Польшу напала гитлеровская Германия, а 17 сентября – Красная Армия. Освободив Польшу от гитлеризма, Советский Союз навязал ей на следующие 45 лет тоталитарный режим.

Подлежащих демонтажу символических памятников, не представляющих художественной ценности, по словам представителей Министерства культуры и национального наследия, набирается около 300. Их демонтируют – причем самые одиозные начали убирать с глаз долой, как только Польша обрела наконец долгожданную свободу.

– А есть ли примеры, когда художественная ценность памятника взяла верх над его «советскостью»? – спросили мы у вице-министра. Да, был ответ, это монумент известного польского скульптора **Ксаверия Дуниковского** в Ольштыне.

### Справка «Народной Воли»

*Монумент Освобождения варминско-мазурских земель был установлен в центре Ольштына в 1954 году и сначала носил название Памятник благодарности Красной Армии.*

*Автор проекта Ксаверий Дуниковский (1875–1964) – известный скульптор, переживший Освенцим, выполнил памятник в виде двух пилонов, изобразив на одном фигуру советского солдата, а на гранях второго – барельефы с изображением грозной военной техники и сцен мирной жизни, символизирующих достижения социализма. Для сооружения памятника из Германии привезли каменные элементы взорванного самими немцами при отступлении в январе 1945 года мавзолея Гинденбурга, увековечивающего битву под Танненбергом.*

*Монумент, который сами жители Ольштына оценивают неоднозначно (некоторые называют его «виселицами»), стоит на площади, которая раньше носила имя Красной Армии, а теперь названа в честь Ксаверия Дуниковского.*

*Коммунистический серп и молот, как еще раз подчеркнул вице-министр Министерства культуры и национального наследия Польши Ярослав Селлин, у большинства поляков ассоциируются с трагедией в Катыни, когда под Смоленском были расстреляны тысячи польских офицеров, взятых в плен Красной Армией. Советский Союз долгое время списывал эту бесчеловечную казнь на немцев. Таких «расстрельных» мест, где массово убивали поляков, по уверению вице-министра, помимо Катыни в СССР было еще три: одно – в селе Медное в Тверской области и два в Украине – под Киевом и Харьковом.*

*Более того – и это уже звучит как сенсация: польские исследователи полагают, что 5 тысяч польских офицеров расстреляли в минском парке имени Челюскинцев или в Куропатах. С белорусской стороной ведутся переговоры о проведении совместных расследований по данному вопросу, но положительного ответа пока нет.*

**Людмила СЕЛИЦКАЯ.**
***Минск–Варшава–Минск.***

*(Окончание в следующем номере.)*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Для закускі акурат прафсаюзны сервелат

На Міёрскім мясакамбінаце Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі выпускае ўласную каўбасу, якую рэкамендуе набываць усім сталовым, турбазам і санаторыям. "Сервелат "Прафсаюзны" – для дружнага калектыву!" – так гучыць лозунг федэрацыі.

Нам убівалася ў мазгі,
Што кулінар падчас работы
Пячы павінны пірагі,
Шавец жа шыць павінны боты.
Як будзе ўсё наадварот
Ці ўзнікнуць проста перакосы,
Дык і пірог не пойдзе ў рот,
І кожны з нас хадзіцьме босы.
Але пакуль што глупстваў шмат,
І тых, хто робіць іх, – ад пуза.
Займець уласны сервелат –
Вось мэта, скажам, прафсаюза.
Бадай, усклікнем я і вы:
"Павінна быць другою мэта –
Ахоўваць нашыя правы!
Хіба ж як след ён робіць гэта?
Павінны, калі трэба, ён
Рабочых вывесці на страйкі,
Але з уладай ва ўнісон
Пра лад шчаслівы травіць байкі –
Давольны братка-беларус!"
(Адзначыць варта: не адзіны
У гэтым сэнсе прафсаюз,
Які абраў занятак дзіўны.
Напрыклад, у нядаўні час
Мы адпускалі жарты-кпіны,
Што ледзь не кожны жылкамгас
Рабіў вянкі і дамавіны.)
Гадаюць, мусібыць, усе,
А хтось здзіўляецца адкрыта,
Што прафсаюз на каўбасе
Спыніў свой выбар менавіта.
Галін нямала назаву –
Ад будаўніцтва да навукі, –
Дзе льга напружыць галаву
Або хаця б прыкласці рукі.
Чаму, напрыклад, прафсаюз
Не распачаў вытворчасць цэглы?
Культура ў нас як цяжкі груз,
І медыцыны стан нягеглы.
Прадоўжыць можна гэты спіс.
Я разважаў гадзіну недзе,
Пакуль ці лозунг, ці дэвіз
На сервелаце не разгледзеў.
А чым жа ён мяне здзівіў?
Імкнецца лозунг нам давесці,
Што стане дружным калектыў,
Як будуць людзі разам есці
Той прафсаюзны сервелат.
Так будзе добра калектыву,
Што потым злы начальнік нат
Не дасць нікому ў хвост і ў грыву!
А ў нас звычайна калектыў
Збіраецца з якой нагоды?
Калі наспеў карпаратыў
І ўсе ў чаканні асалоды;
Калі аднойчы кіраўнік
Калегам усміхнуўся міла
І ўсіх паклікаў на пікнік,
Бо проста лета наступіла.
А чым займаюцца, калі
"Мерапрыемства" ладзяць разам?
Раней гарэлку мы пілі.
Так і цяпер. І на зямлі
Парой ляжаць калегі плазам…

* * *

І ўрэшце зразумеў я сам,
Якая ў лозунга нагрузка:
Ад прафсаюзаў каўбаса –
Для ўсіх найлепшая закуска!

### Без пазнакі не абысціся

Наш арганізм расце ў жыцці
Гадоў да дваццаці пяці.
Пра гэта (трэба тут пазнака)
Не ведаюць жывот і ср…ка.

### Стары ці не стары?

Паскардзіўся сваім сябрам,
Што я, лічы, ужо стары:
То хрусне тут,
То стрэліць там…
І адказалі мне сябры:
– Маркоціцца няма падстаў:
Ты малады да той пары,
Пакуль дзіцёнак не аддаў
Табе свой тэлефон стары…

### Кампенсацыя

Нягеглы від пасля запою,
Ды бедаваць няма прычыны:
Апух, як дыня, твар,
Затое
Разгладзіліся ўсе маршчыны.

### Рэдка і часта

Сказала сумна мне суседка,
Як разам мы ўзялі на грудзі:
– Жаніцца людзі хочуць рэдка.
А часта замуж хочуць людзі.

### Начная рыбалка

Удалай, калі выпілі як след,
Начная атрымалася рыбалка.
У сетку, разагрэўшы іх імпэт,
Папалася прыгожая русалка.
І рыбакі ад радасці такой
Дабавілі яшчэ, прапала стома…
Як сорамна было ім раніцой!
Бо стала ясна, што злавілі сома…

МЕРКАВАННЕ

# Нікому ніколі не дазваляйце выціраць аб сябе ногі

Прафсаюзная тэматыка ў маім жыцці займае асобае месца: чатыры гады працы старшынёй прафсаюзнага камітэта інстытута (1978–1982 гг.), абарона кандыдацкай дысертацыі па прафсаюзнай праблематыцы (1985 г.), абгрунтаванне неабходнасці стварэння ў Беларусі прафсаюзнай газеты. Падчас сустрэчы з тагачасным старшынёй Белсаўпрофа **Уладзімірам Ганчарыкам** (1987 г.) гэта ідэя атрымала падтрымку, і неўзабаве пачаў выходзіць першы беларускі прафсаюзны штотыднёвік «Праца» (1989 г.) (сёння – «Беларускі час»).

Прафсаюзы ўзніклі на пачатковым этапе рабочага руху як заканамерны вынік яго станаўлення. Умовы працы рабочых былі жудасныя: 12–16-гадзінны рабочы дзень, мізэрныя заробкі, жыццё ў бараках. Ахова працы адсутнічала: траўматызм быў звычайнай з'явай, смяротнасць – высокая. У шматлікіх навуковых і мастацкіх творах даецца красамоўнае апісанне тагачаснага жыцця рабочых.

Асэнсаванне неабходнасці паляпшэння свайго сацыяльнага стану падштурхоўвала рабочых да змагання. Спачатку гэта былі адзінкавыя выступленні. З асобнымі рабочымі змагацца было легка: маглі пабіць, забіць, пазбавіць працы, выгнаць з барака. Паступова прыйшло асэнсаванне: моц рабочых у іх згуртаванасці, у калектыўнай барацьбе за паляпшэнне ўмоў працы і павышэнне заробку. Само жыццё падказала ідэю стварэння саюзаў рабочых па іх прафесійнай прыналежнасці. Так узніклі прафсаюзы як неад'емная частка існавання рабочага руху. **Галоўная функцыя прафсаюзаў – абарона інтарэсаў рабочых, барацьба за паляпшэнне ўмоў іх працы і жыцця.**

Станаўленне і развіццё прафсаюзнага руху ва ўсіх краінах свету праходзіла ў няспыннай барацьбе паміж працадаўцамі і наёмнымі працаўнікамі.

І зараз у сродках масавай інфармацыі мы рэгулярна чытаем аб забастоўках, маршах, дэманстрацыях у Германіі, Францыі, Грэцыі, Італіі, Польшчы, Англіі, іншых краінах. Бастуюць дзяржслужачыя, настаўнікі, авіядыспетчары, бортправаднікі, фермеры, урачы, людзі іншых прафесій. Праз забастоўкі ідзе рэгуляванне кошту рабочай сілы. У рынкавай эканоміцы іншага рэгулятара проста не існуе.

Вось некалькі прыкладаў.

2018 год (люты-сакавік) распачаўся адной з мацнейшых забастовак за ўсю гісторыю вышэйшай школы Англіі: баставалі выкладчыкі 62 універсітэтаў, уключаючы Кембрыджскі і Оксфардскі. Чым былі незадаволены прафесары? Падрыхтаваным новым праектам палажэння аб пенсіённым забеспячэнні, у выніку прыняцця якога кожны выкладчык мог бы страціць пасля выхаду на пенсію 10.000 фунтаў стэрлінгаў у год.

Рэгулярна бастуюць работнікі англійскай пошты, шахцёры, работнікі наземнага і падземнага грамадскага транспарту, авіядыспетчары, лётчыкі.

Прычынай забастоўкі банкаўскіх супрацоўнікаў стала рашэнне ўлады Брытаніі ў сакавіку 2017 года ўвесці абмежаванне на павышэнне заробкаў – не больш як на 1% у год да 2020 г., у той час як інфляцыя ў краіне склала ў маі 2,9% з-за Brexit і прывяла да аслаблення фунта стэрлінгаў.

Банкаўскія работнікі не належаць да катэгорыі асоб з нізкім узроўнем кошту сваёй працы. Адчуваецe моц згуртавання людзей у абарону сваіх фінансавых інтарэсаў? І гэта нармальна. У рынкавай эканоміцы трэба ўмець змагацца за свае інтарэсы. Лепшымі дарадчыкамі людзей якраз і павінны быць іх калектыўныя намаганні праз прафсаюзы.

На пачатку 2016 г. у Францыі баставалі таксісты. Разам з таксістамі ў пратэстных акцыях бралі ўдзел авіядыспетчары, дзяржслужачыя, якіх не задавальнялі памеры заробкаў і магчымасць скарачэнняў рабочых месцаў.

Восенню 2017 г. і вясной 2018 г. па Францыі пракацілася новая хваля забастовак і пратэстных маршаў. Не працавалі школы, з перабоямі працаваў чыгуначны транспарт, была адменена трэць авіярэйсаў.

Удзел у страйку бралі ўсе дзевяць прафсаюзаў работнікаў дзяржсектара, якія прадстаўляюць інтарэсы больш як 5 млн працаўнікоў. Кіравалі забастовачным рухам два найбуйнейшыя прафсаюзы Францыі – Французская дэмакратычная канфедэрацыя працы (CFDT) і Рабочая сіла (FO).

Сёння бастуе Грэцыя: чыгуначнікі, работнікі метро, грамадскага транспарту. Асноўнае патрабаванне – павышэнне заробку, захаванне рабочых месцаў, сацыяльных ільгот.

Беларускія прафсаюзы па-свойму асэнсавалі наказ Леніна і да сённяшняга дня ўсё вучаць, вучаць і яшчэ раз вучаць… як жыць. А як жывём – усе добра бачаць.

Але ж за акном надвор'е змянілася кардынальна. У Беларусь вярнуўся, можна сказаць, капіталізм. Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Рэспублікі Беларусь, па стане на студзень 2018 г. амаль 90% юрыдычных асоб (а гэта 127,3 тыс.) фундуюцца на прыватнаўласніцкай аснове. Доля дзяржаўнай уласнасці складае ўсяго 11,3% (14,1 тыс.). Такі расклад прыватызацыі далёка не ў кожнай еўрапейскай дзяржаве знойдзеш. У прыватным сектары сёння працуюць 2850,4 тыс. чалавек, у дзяржаўным – 1745,3 тысячы.

Паводле вынікаў мінулага года сярэдні заробак у Беларусі склаў 815,2 рубля ў месяц (407,6 долара), пры гэтым у сістэме культуры і спорту – 593 (296,3), адукацыі – 557,7 (278,85); ахове здароўя і сацыяльных паслуг – 621,7 (310,85); грамадскім харчаванні – 601,6 (300,8). Спытайцеся сёння ў чэха, француза, немца, англічаніна, італьянца, іспанца, шведа, фіна, бельгійца, швейцарца, нарвежца: ці пагадзіўся б ён працаваць за такі заробак? У адказ мы пачулі б: "А дзе ж вашы прафсаюзы, чым яны займаюцца, што яны робяць? Чаму вашы прафсаюзы дазваляюць працадаўцу мець такую танную рабочую сілу? Вы ж не "бананавая краіна"! Трэба паважаць сябе!"

А можа, гэтае пытанне да кожнага з нас? Ці мы ўсё жыццё будзем першакласнікамі? Сапраўды, нам усім трэба вучыцца паважаць сябе і не дазваляць выціраць аб сябе чыноўніцкія боты. Сёння сярэдні заробак у еўрапейскіх краінах складае 3–4 тыс. еўра ў месяц. Прафсаюзы не ствараюць новыя рабочыя месцы. Іх ствараюць працадаўцы. А вось забеспячэнне прыдатных умоў працы (працягласці рабочага дня/тыдня, тэхнікі бяспекі, узроўню заробку, сацыяльных гарантый і г.д.) – гэта прыярытэт і сутнасць дзейнасці прафсаюзаў.

Беларускае тэлебачанне любіць паказваць, як беларускія прафсаюзы маніторац цены ў крамах. Цэны – важны аспект, але ў рынкавай эканоміцы інструмент іх рэгулявання мае больш універсальны характар праз попыт-прапанову. Больш таго, каб трымаць руку на пульсе цэнаўтваральных працэсаў, дзяржава стварыла спецыяльнае Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю (міністр У.Калтовіч).

**Задача прафсаюзаў у рынкавай эканоміцы – маніторыць не цэны, а кошт працы, заробкі ды памеры дзяржаўных сацыяльных выплат насельніцтву і дамагацца, каб яны (заробкі і сацыяльныя выплаты) стваралі і забяспечвалі нармальны ўзровень сацыяльнага дабрабыту людзей.** Існуе і правераны часам і вопытам механізм дасягнення такога ўзроўню. Для краін з устойлівай рынкавай эканомікай такія дзеянні прафсаюзаў – звычайная з'ява. Будзем спадзявацца, што і беларускія прафсаюзы зразумеюць і неўзабаве авалодаюць гэтым механізмам.

**Васіль РУСОВІЧ, дацэнт.**

ЯК У ІХ…




Амерыканскае настаўніцтва зарабляе, вядома, значна больш, чым беларускае. Але з дапамогай прафсаюзаў яны змагаюцца за яшчэ лепшае жыццё.

З НАГОДЫ

## Сапраўды, да кожнага злодзея міліцыянера не прыставіш

Часта гучыць такі выраз: "Да кожнага злодзея міліцыянера не прыставіш". І сапраўды, не выпадае змагацца з рознага роду раскрадальнікамі дзяржаўнай маёмасці, павялічваючы штаты праваахоўнікаў.

На праблему трэба глядзець глыбей. Колькі гаворана-перагаворана пра прыватызацыю! А працэс гэты ідзе настолькі марудна, што як валодала дзяржава асноўнымі сродкамі, так і валодае. А калі б у нас было больш прыватнікаў, то, паверце, і зладзеяў значна паменшылася б. Чалавек, якім бы ён сквапным ні быў, але сам у сябе красці не будзе.

Заўважце, у краінах, дзе даўнымдаўно прыватызаваны асноўныя сродкі вытворчасці, зладзеі амаль пераваліся.

**Вера САЛАГУБАВА.**

*г.Мазыр.*

ПАЗІЦЫЯ

## Злоўжываеш шкоднымі звычкамі – нясі адказнасць



Колькі пісана-перапісана пра так званых лайдакоў, якія павінны аплачваць пэўныя паслугі камунальных і іншых служб! Лічу, дзяржава правільна робіць, што прыціскае розных абібокаў. Хопіць ім сядзець на карку працоўнага люду.

Будзь мая воля, я ўвёў бы нейкія штрафныя санкцыі і ў адносінах да алкаголікаў і заядлых курыльшчыкаў. З-за шкодных звычак яны губяць сваё здароўе, часта звяртаюцца па дапамогу да медыкаў. Скажыце, а чаму на іх лячэнне павінны ісці сродкі з дзяржбюджэту? Няхай усе расходы на лячэнне аплачваюць са сваёй кішэні. Калі так будзе, то, я ўпэўнены, многія з тых, хто злоўжывае шкоднымі звычкамі, задумаюцца.

Хачу звярнуць увагу на такі аспект праблемы. Колькі ў нас маладых дзяўчат паляць цыгарэты! Тысячы! З-за атручвання арганізма ў многіх затым нараджаюцца нездаровыя дзеці. Зноў жа – чаму дзяржава павінна браць на сябе ўсе расходы па іх лячэнні? У першую чаргу плаціць павінна тая асоба, якая з-за шкоднай звычкі нанесла шкоду свайму дзіцяці.

**Зміцер ВАЛЬКОВІЧ.**

*Гомель.*

ПРАПАНОВА!

## …І размалёўваць не трэба

Аўтамабільныя трасы, бывае, пралягаюць блізка ля жылых дамоў. Каб знізіць гул машын і выкіды выхлапных газаў, па абочыне ўзводзяцца высокія дашчатыя альбо з палімерных матэрыялаў сцены. Прывабны выгляд яны маюць толькі тады, калі прыгожа размаляваны. Але гэта патрабуе немалых сродкаў, паколькі з-за прыродных ападкаў іх трэба перафарбоўваць праз кожныя тры-чатыры гады.

Я нядаўна быў у Польшчы. Дык вось заўважыў, што нашы суседзі пайшлі па іншым шляху. У іх тыя ж гукапаглынаючыя агароджы абвіты раслiннасцю зверху і да самай зямлі. І прыгожа, і не трэба перафарбоўваць. Эканомяцца значныя фінансавыя сродкі.

Прапаную нашым дарожнікам пераняць вопыт палякаў.

**Рыгор КАЛЯНКОВІЧ.**

*Гродна.*



А як бы прыгожа глядзелася гэтая сцяна ў зеляніне…

Народная Воля
http://www.nv-online.info
12 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

ЭВРИКА!

# Почему норвежцам нравится работать бесплатно

*Эта традиция настолько глубоко вросла в культуру современной Норвегии, что в 2004-м «дугнад» объявили здесь словом года. Отчего же бесплатный труд на благо общества столь популярен?*



...Был канун национального праздника – Дня Конституции Норвегии, и люди по всей стране засучили рукава, чтобы как следует прибраться и потом отпраздновать 17 мая как положено.

На школьном дворе в городке Согндал собрались родители учеников – надо было всё приготовить к завтрашнему дню.

Шесть матерей взяли на себя руководство этой важной операцией. Двое отцов, один из которых – беженец из Эритреи, выносили из школьного здания столы и стулья. Группа родителей украшала двор ветками березы и флагами. Другие выносили мусорные корзины.

Несколько родителей интересовались у организаторов завтрашнего праздника, в какие игры надо будет играть с детьми. «Просто постарайтесь, чтобы всем было хорошо», – ответили им.

Перед вами типичный дугнад. Это норвежское слово буквально означает «помощь» или «поддержка».

Обычай совместной работы на благо общества имеет корни в истории Норвегии, но в том или ином виде он когда-то существовал в большинстве аграрных общин по всему миру.

В Норвегии дугнад традиционно использовался для таких серьезных работ, как корчевание пней, заготовка сена и строительство домов, а завершалось всё пиром на всю деревню.

Для нации крестьян и рыбаков дугнад был своего рода общественной программой страхования. Люди бескорыстно помогали друг другу, а в результате все знали – если будет нужно, тебе всегда помогут.

Сегодня дугнад означает неоплачиваемую добровольную работу, выполняемую вместе с группой других волонтеров – и на благо местной общины, и на благо всей страны.

Традиция настолько укоренилась в культуре современной Норвегии, что в 2004-м «дугнад» объявили словом года.

В городах дугнад – это, как правило, уборка территории и уход за деревьями в жилищных кооперативах.

Дугнады – обычное дело в детских садах и начальных школах, где часто бывает необходим мелкий ремонт.

В сельской местности соседи часто помогают друг другу ремонтировать дома или гаражи.

Что касается спортивных мероприятий, то тут уж дело чести каждого родителя поддержать своего ребенка – как собственным появлением, так и конкретным делом.

Спортивные дугнады часто помогают маленьким небогатым командам сэкономить на транспорте, напитках, судьях и медперсонале. Для них это важнейший ресурс, помимо прочего укрепляющий общинный, командный дух.

Но спортивный дугнад может принимать и более внушительные размеры. Да, в Норвегии всего-то около 5,3 млн жителей, но эта нация славится своими спортсменами и мировыми рекордами.

Дух дугнада – это то, что движет норвежцами и во время международного футбольного турнира для детей и молодежи, самого большого в мире, и во время грандиозного благотворительного телемарафона.

На «Кубок Норвегии» приезжают молодежные команды со всего мира. И его участники часто говорят, что совершенно невозможно понять, кем на самом деле работают и из какого слоя общества волонтеры, его обслуживающие.

Водитель автобуса или гендиректор крупной компании – на эту неделю все одеты в единую униформу, таскают сумки команды, к которой прикреплены, развлекают и подбадривают детей и спят на матрасах в школьном спортзале.

Национальный телемарафон, собирающий деньги на благотворительность, также полагается на дух дугнада. Каждый год в одно из воскресений октября 100 тысяч норвежцев стучатся в двери 2,3 млн домов, подставляя корзинки для пожертвований.

В этом году телемарафон будет посвящен помощи одиноким людям из всех слоев общества.

Опросы показывают, что число волонтеров и количество времени, которое те проводят на общественных работах, в некоторых сферах даже увеличивается.

Например, в 2014 году 61% норвежцев занимались дугнадом по меньшей мере для одной организации (данные Statistics Norway).

Для экономики это тоже очень полезно. В секторе неправительственных организаций страны добровольная помощь приносит около 8,8 млрд долларов – больше, чем работа оплачиваемых сотрудников (6,435 млрд долларов) этого сектора, что в 2014 году составляло около 5% всего ВВП континентальной Норвегии.

ПУЛЬС

## За первой встречей будет вторая?



Сейчас все внимание приковано к Сингапуру, где сегодня, 12 июня, должна пройти встреча Дональда Трампа и Ким Чен Ына. В ходе этих переговоров стороны планируют обсудить двусторонние отношения и денуклеаризацию Корейского полуострова. Сам Трамп прежде допускал, что по итогам встречи может быть подписано соглашение об окончании войны на Корейском полуострове. Также в Вашингтоне ожидают подписания сторонами договоренности о полной денуклеаризации региона.

Как стало известно, северокорейский лидер Ким Чен Ын предложил президенту США Дональду Трампу провести второй раунд саммита в следующем месяце в Пхеньяне. Об этом со ссылкой на знакомый с процессом организации встречи глав государств источник сообщает корейское издание «Чунан ильбо».

## В Австрии закрывают мечети



Лидер австрийского сообщества мусульман IGGÖ Ибрагим Олгун заявил, что его организация будет юридически оспаривать решение правительства о закрытии семи мечетей и высылке по меньшей мере 40 имамов.

В заявлении Олгуна говорится, что закрытие мечетей – радикальное решение, которое не может быть основано на догадках.

О решении закрыть семь мечетей, получающих финансирование из-за рубежа, и депортации имамов, подозреваемых в связях с турецкими националистами, австрийские власти объявили 8 июня.

Вена объяснила такое решение необходимостью подавления «политического ислама» и борьбой с турецким национализмом.

## Меркель о России



Канцлер Германии Ангела Меркель заявила, что если она поедет на чемпионат мира по футболу в Россию, то может использовать поездку для политического диалога.

Канцлер отметила, что без переговоров нельзя решить ни один конфликт, в том числе в Украине и в Сирии. Кроме того, она пожелала немецкой команде всего хорошего на чемпионате.

Продолжив тему России, Меркель подчеркнула, что считает неправильной идею возвращения Москвы в G8. По ее мнению, в этом формате могут заседать государства, исповедующие общие ценности.

## В Токио возмутились

Япония выразила протест против планов правительства России проложить оптоволоконный кабель между Сахалином и тремя островами Курильской гряды. Намерения Кремля являются «крайне разочаровывающими», заявил представитель правительства Японии.

Ранее заявлялось о намерениях Москвы и Токио совместно заниматься экономическим развитием Курильских островов. Однако из-за вопроса принадлежности Курил до сих пор не понятно, удастся ли начать совместную работу. В то время как РФ планирует сотрудничать в соответствии с российскими законами, Япония хочет убедиться в том, что общие экономические проекты не будут восприняты как признание ею российской позиции в территориальном конфликте.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Дыпламат Іосіф Гашкевіч



Хоць і далёка ад нас Японія, ды здаўна вабіць да сябе беларусаў. Нават першым расійскім консулам у гэтай астраўной краіне быў выхадзец з Белай Русі Іосіф Антонавіч Гашкевіч. Ён стаў першым замежнікам, якому асцярожныя японцы дазволілі наведаць унутраную тэрыторыю краіны, што іншаземцам катэгарычна забаранялася. Іосіфа Антонавіча гасцінна прымала японская сталіца. І ўжо зусім неверагодна: «белавалосы рускі консул», як назвалі беларуса японцы, быў дапушчаны ў палац самога сёгуна – кіраўніка японскай дзяржавы. Гэтая дыпламатычная пасада стала вяршыняй кар'еры Гашкевіча. Пачыналася ж усё значна працей і адначасова больш складана.

5 кастрычніка 1814 года ў сям'і Антона Гашкевіча, святара з Мінскага павета, нарадзіўся сын Восіп. Дзяцінства яго прайшло ў Якімавай Слабадзе Рэчыцкага павета. Вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе, Мінскай духоўнай семінарыі. Затым – Пецярбургская духоўная акадэмія. У час вучобы Іосіф авалодаў грэчаскай, нямецкай, французскай, англійскай, лацінскай, яўрэйскай мовамі. Тады ж захапіўся ідэяй перакласці старазапаветныя кнігі з яўрэйскай мовы на рускую. Ад мэты сваёй не адступіўся. У 1839 годзе Біблія была надрукавана.

У снежні таго ж года 25-гадовы Іосіф Гашкевіч выпраўляецца ў сваё першае замежнае падарожжа. У складзе Рускай духоўнай місіі яго на 10 гадоў накіравалі ў Пекін. Тут ён вывучыў кітайскую і японскую мовы, займаўся астранамічнымі даследаваннямі, назіраў за прыродай, фатаграфаваў, збіраў калекцыі насякомых. Навуковыя досведы выклаў пазней у шэрагу артыкулаў, надрукаваных у Расіі.

А пасля была першая экспедыцыя ў Японію. У пачатку кастрычніка 1852 года рускі цар Мікалай І абыходзіў шарэнгі матросаў і афіцэраў, што выстраіліся на палубе фрэгата «Палада». Яны павінны былі адплыць з дыпламатычнай місіяй у Японію. Сярод марской формы цар заўважыў двух цывільных людзей. Адзін з іх – пісьменнік Іван Ганчароў, аўтар «Обыкновенной истории» і «Обломова», выконваў ролю сакратара кіраўніка экспедыцыі віцэ-адмірала Яўфімія Пуцяціна. Другі – наш зямляк Іосіф Гашкевіч – з'яўляўся перакладчыкам місіі. Абодва моцна пасябравалі, пра што пісьменнік згадваў у цыкле падарожных нарысаў «Фрегат «Паллада».

Першая місія ў Японію аказалася ўдалай. У 1855 годзе з удзелам Гашкевіча быў падпісаны руска-японскі дагавор. Усе тры гады, што доўжылася экспедыцыя, ён не перапыняў навуковых заняткаў. А паколькі Пуцяціну давялося практычна здзейсніць кругасветнае падарожжа, то Гашкевіч меў шмат захапляючай даследчай працы. Калі карабель прычальваў да берага, ён даследаваў прылеглыя землі, іх геалагічныя асаблівасці, збіраў калекцыі, рабіў фотаздымкі. Такім чынам вывучыў, напрыклад, Паўднёвую Афрыку.

У Японіі прыязныя адносіны скаліся ў нашага земляка з будыйскім бонзам з горада Хэда Тацібана Каасай. Ды за стасункі з замежнікамі, паводле японскіх законаў, пагражала суровая кара. Таму, калі місія скончыла сваю працу, Каасай вымушаны быў разам з расіянамі тайна пакінуць Японію. Але ў 1853–1856 гадах ішла Крымская вайна. Англійская марская эскадра захапіла ў палон удзельнікаў пуцяцінскай экспедыцыі разам з Тацібана Каасай, якога ў гонар Гашкевіча назвалі Уладзімірам Іосіфавічам Яматавым.

Палонных трымалі спачатку ў Ганконгу, пасля ў Англіі. З цяжкасцю ўдалося вярнуцца ў Расію. У Пецярбургу Каасай- Яматаў дапамог Гашкевічу здзейсніць даўнюю мару – скласці першы «Японска-рускі слоўнік», які выйшаў у 1857 годзе і быў адзначаны медалём Пецярбургскай акадэміі навук і прэстыжнай Дзямідаўскай прэміяй. Такога слоўніка не мела тады ніводная краіна Еўропы.

А японскі калега Гашкевіча Яматаў прыняў расійскае падданства і нават ахрысціўся. Ён працаваў у Міністэрстве замежных спраў Расіі, выкладаў у Пецярбургскім універсітэце.

Калі ў 1858 годзе ў японскім горадзе Хакадатэ адкрывалася расійскае консульства, міністру замежных спраў А.Гарчакову спатрэбілася надзейная кандыдатура. Я.Пуцяцін парэкамендаваў Іосіфа Гашкевіча. Так наш зямляк стаў першым расійскім консулам у Японіі. Ён дзейсна спрыяў развіццю расійска-японскага супрацоўніцтва і паразумення. Акрамя таго, выкладаў у Хакадацкай рускамоўнай школе, займаўся навуковымі даследаваннямі.

У 1865 годзе Гашкевіч вярнуўся ў Пецярбург, пахаваўшы ў Хакадатэ жонку. Тут ён ізноў сустрэўся з Каасай-Яматавым. Аднак Іосіф Антонавіч увесь час памятаў пра малую радзіму, пра свой беларускі край. Настальгія змусіла яго ў кастрычніку 1867 года пераехаць у Беларусь. Жыў у невялікім маёнтку Малі цяперашняга Астравецкага раёна. А 15 мая 1875 года дыпламат, вучоны-мовазнавец, даследчык Далёкага Усходу стацкі саветнік Іосіф Гашкевіч памёр.

Яго вучань і хрэснік Каасай-Яматаў восенню 1874 года вярнуўся ў Японію. Зноў перайшоў у сваю веру, стаў манахам. Але ніколі не забываўся пра Іосіфа Гашкевіча. 30 мая 1885 года Каасай пакінуў гэты свет.

Удзячныя нашчадкі годна ўшанавалі памяць І.Гашкевіча. У беларускім Астраўцы яму адкрыты помнік. У музеі японскага пасёлка Хэда ёсць шмат матэрыялаў пра нашага земляка, а ў гарадку Фудзі на помніку рускім матросам і афіцэрам значыцца і яго прозвішча. У горадзе Хакадатэ, дзе было расійскае консульства, устаноўлены бронзавы бюст Іосіфа Гашкевіча. Яго імем названы заліў у Паўночнай Карэі.

У СОСЕДЕЙ

## За год полмиллиона украинцев посетили Европу

*Полтора миллиона трудятся в Польше*

Ровно год назад граждане Украины получили возможность ездить в страны Шенгенской зоны и почти во все государства ЕС без визы. По словам заместителя руководителя пресс-службы Госпогранслужбы Украины Александра Тихонова, с 11 июня 2017 года преимуществами безвизового режима со странами Шенгенской зоны (помимо 22 государств ЕС это еще четыре европейские страны) воспользовались более полумиллиона граждан Украины, отказано во въезде было почти полутора тысячам. Самые распространенные причины отказа – отсутствие надлежащих документов и недостаточное финансовое обеспечение поездки.

Введение безвизового режима между Украиной и ЕС произошло на фоне оживленной трудовой миграции из Украины. Только в Польше, по данным, приведенным в начале 2018 года польским премьером Матеушем Моравецким, сейчас находятся 1,5 млн украинцев. На рабочую силу из Украины рассчитывают немецкие фермеры, в Чехии ждут украинских медсестер, а Словакия упрощает для украинцев процедуру трудоустройства.

ПОДРОБНОСТИ



## Частный самолет, фешенебельный отель

Один из самых известных современных диктаторов и руководитель одной из беднейших стран мира Северной Кореи Ким Чен Ын прилетел в Сингапур на встречу с президентом США Дональдом Трампом на частном борте и, как отметили местные СМИ, из аэропорта отправился в сторону отеля класса люкс **St Regis**. Там северокорейская делегация будет проживать во время пребывания в Сингапуре.

Отель, где будет жить **Ким Чен Ын**, называют роскошным и потрясающим. Среди услуг St. Regis: круглосуточные услуги дворецкого, эксклюзивные «Бентли» с водителем и спа-салон. На территории 5-звездочного отеля также расположена художественная галерея, в которой собраны шедевры искусства Азии.

Как сообщает 360tv, этот отель считается одним из самых дорогих в Сингапуре. Президентский номер там стоит 8 тысяч долларов за ночь.

СТОП-КАДР

# Живая цепь длиной в 200 километров

*Десятки тысяч жителей Страны Басков – автономного региона на севере Испании – выстроились живой цепью длиной 202 километра с призывом большей автономии.*

Цепь протянулась от городов Сан-Себастьян и Бильбао на севере Испании до Витории, столицы Страны Басков, где находится ее парламент.

Регион обладает более высокой степенью самоуправления, чем Каталония, которая активно добивается независимости от Мадрида.

В последние годы в Стране Басков поддержка идеи независимости несколько ослабла. Тем не менее многие считают, что население должно иметь право провести референдум по вопросу своих будущих отношений с Мадридом.



УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–46.)*

## 5. У партызанскай зоне

Неяк зусім непрыкметна, без усялякага крутога пераварату, выкарыстання зброі сканаў у Магільным нямецкі акупацыйны рэжым. Апошняй нахабнай акцыяй яго стала ажыццёўленае дзесьці ў першыя месяцы 1943 года заманьванне беларускіх хлопцаў і дзяўчат у адну з правабярэжных нёманскіх вёсак нібыта дзеля вызначэння іх узросту і выдачы асабістых дакументаў. Меру пакарання за няяўку ўстанавілі вельмі суровую, таму многія паслухаліся. Калі б яны дакладна ведалі, дзеля чаго іх збіраюць, напэўна, засталіся б дома. А збіралі дзеля адпраўкі на працу ў Нямеччыну.

З Магільнага трапіла туды не па сваёй волі каля дзесяці чалавек з моладзі. Сярод іх быў і вельмі паважаны ў мястэчку за сваю лагоднасць, дабрыню Барыс Аўсянік. Ён не загінуў ад цяжкай, нявольніцкай працы, дачакаўся капітуляцыі Германіі і з вялікай радасцю падаўся на малую радзіму. А вось дайсці да яе, сустрэцца з роднымі і блізкімі не давялося: па дарозе дамоў падарваўся на міне, знайшоўшы вечны спачын на чужой зямлі. Выклікае сумненне праўдзівасць звестак пра Барыса Аўсяніка ў кнізе "Памяць. Уздзенскі раён" (Мн. 2003), дзе ён паказаны як актыўны ўдзельнік партызанскага руху, затым змагаўся на фронце і загінуў у сакавіку 1944 года, гэта значыць яшчэ да вызвалення Магільнага ад нямецкіх захопнікаў.

Пасля непрыкметнай вымушанай здачы нямецкім акупацыйным рэжымам сваіх пазіцый у Магільным пачалі гаспадарыць партызаны. Людзі віталі такія перамены і нават ганарыліся, што жывуць у партызанскай зоне. Калі ў ёй зрэдку і з'яўляліся нямецкія карнікі, дык толькі падчас правядзення аперацый супраць партызанаў, абрабавання цывільнага насельніцтва. У планы акупантаў уваходзіла і фізічная расправа з некаторымі партызанскімі сем'ямі. А вось уся сям'я Мацея Пецюкевіча была вывезена ў Вузду і расстраляна толькі за тое, што яго сын у званні генерала служыў у Чырвонай Арміі. У выніку той акцыі я страціў свайго сябрука Толю, з якім у школе тры гады сядзеў за адной партай.

А Магільнае апынулася ў партызанскай зоне не ў малой ступені дзякуючы бацьку Нёману. У лёсе насельніцтва Вуздзеншчыны ён, без перабольшвання, адыграў вельмі важную ролю. З процілеглага Вуздзе з яе нямецкім гарнізонам левага боку Нёмана жыхары ўсіх вёсак актыўна ўдзельнічалі ў партызанскім руху і не далі ніводнага чалавека ў паліцэйскія фарміраванні. Затое такога ніяк не скажаш пра вёскі правабярэжжа Нёмана, да прыкладу Стальбоўшчыну і Літву, якія знаходзяцца на адлегласці ўсяго толькі трох кіламетраў ад Магільнага. Правабярэжжа Нёмана таксама папаўняла партызанскія шэрагі, але не ў такіх масавых маштабах і з вялікай рызыкай для сем'яў, з якіх дзеці пайшлі на барацьбу з акупантамі. У такім становішчы апынуўся родны дзядзька маёй мамы Ігнат Стахно з Замосця. У канцы 1942 года яго два сыны Вася і Коля ўліліся ў партызанскія шэрагі, паставіўшы сваю сям'ю пад вялікую пагрозу, хаця бацькі ўсяляк імкнуліся ўхіліцца ад яе. Не ўдалося: карнікі расстралялі бацькоў і двух іх дзяцей. Вось і думай, ці правільна паступілі Вася і Коля. Іх сыход у партызаны абышоўся для Беларусі гібеллю чатырох чалавек. Адказныя за разгортванне партызанскага руху асобы напачатку не бралі пад увагу такога фактара, таму і па іх віне беларуская нацыя несла вялікія людскія страты.

Напрыканцы лета ці на пачатку восені 1942 года пакінуў сваю вёску Літву разам з бацькамі і ўліўся ў партызанскія шэрагі родны брат маёй мамы Валодзя. Ад Вузды Літву аддзяляюць прыкладна 13 кіламетраў, таму яна знаходзілася ў межах нямецка-паліцэйскага кантролю. Невыпадкова з гэтай невялікай вёскі ў Вуздзенскай паліцыі служылі тры чалавекі. Сям'я аднаго з іх (Шчасновічаў) суседнічала з бацькамі Валодзі Сымонам і Марыляй, гэта значыць з маімі дзедам і бабай. Камусьці можа падацца парадаксальным, але такое суседства не раз выратоўвала іх ад вернай смерці. Калі па сваіх прычынах у Літву заязджалі немцы, паліцэйскія, мае дзед з бабкай хаваліся не дзе-небудзь у лесе, а ў паліцэйскай сям'і Шчасновічаў, будучы ўпэўненымі, што ў іх хату акупанты не зойдуць. А вось хату маіх дзеда і бабы яны – вядома, з якой мэтай, – не раз наведвалі, на вялікае шчасце, не знаходзячы ў ёй гаспадароў. Такой жа гасціннасцю Сымон і Марыля плацілі сям'і Шчасновічаў, хаваючы іх ад партызанскіх наездаў. Вядомы факты: калі хто-небудзь з паліцэйскіх гэтых трох сем'яў Літвы наведваў Валодзевых бацькоў, дык прасіў, каб папярэдзілі сына пра маючую адбыцца аблаву на партызан. Першая ж, але не апошняя сустрэча (пра другую скажу пазней), прычым неафіцыйная, партызана Валодзі з сынам-паліцаем Шчасновічаў адбылася ў самым канцы 1943 года. У час яе ніхто з "ворагаў" не наводзіў адзін на аднаго рулю ружжа. Глядзелі яны адзін аднаму ў вочы як суседзі. Заўважу яшчэ і такое: мае дзед і баба вызнавалі праваслаўную веру, сям'я Шчасновічаў – каталіцкую. Як бачым, і гэты фактар, з якім звязана нямала канфліктных сітуацый у межах нашай краіны ў цэлым, нікольні не паўплываў у горшы бок на ўзаемадачыненні партызанскай і паліцэйскай сем'яў, што мо не так характэрна было ў гады акупацыі для іншых мясцовасцяў.

Не мелася праблемы, дзе хавацца падчас налёту карнікаў, і ў сястры Валодзі Наташы з яе трыма яшчэ зусім малымі дзецьмі: Васем, Косцікам і Валяй. Тры літоўскія сям'і, прычым адна паліцэйская, гатовы былі ў любы час адчыніць дзверы сваіх хат маёй цётцы Наташы, калі толькі таго патрабавала сітуацыя. І цётка Наташа, і яе дзеці дачакаліся вызвалення ад акупантаў, а вось з мужам і бацькам Іванам Мялешкам ім не пашчасціла сустрэцца, бо ён загінуў на фронце.

Як бы мой дзед з бабаю ні хаваліся і як бы іх ні хавалі ад немцаў і паліцаяў аднавяскоўцы, усё-такі аднойчы давялося сутыкнуцца лоб у лоб з карнікамі. Уся віна за гэта ляжыць на назве вёскі – Літва. З кніг па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны нам вядома, што ў беларускіх паліцэйскіх падраздзяленнях, розных карніцкіх атрадах служыла нямала і літоўцаў. І трэба ж было здарыцца такому: пасля выканання чарговай аперацыі адзін з такіх атрадаў, у якім было некалькі літоўцаў, праходзіў недалёка ад вёскі Літва. Па іх просьбе камандзір са сваім атрадам заглянуў у яе. Карнікі літоўскага паходжання тут жа пачалі засыпаць мясцовых жыхароў пытаннямі, ці не з'яўляюцца яны выхадцамі з Літвы, прасілі наладзіць сустрэчу з самым старым альбо самым дасведчаным чалавекам. Людзі, доўга не думаючы, прапанавалі майго дзеда. Да самых старэйшых жыхароў вёскі ён не належаў, але не было чалавека, роўнага яму па ведах. Каб не даць запалохаць дзеда, першым у іх хату ўвайшлі ўсё той жа самы бацька паліцэйскага Шчасновіч з суседам, а за імі карнікі. У цёплай размове з дзедам яны стараліся ўжываць некаторыя літоўскія словы, на якія, аднак, не было ніякай рэакцыі. Дзед толькі разводзіў рукамі і рабіў адмоўныя знакі галавой, што зусім не радавала літоўцаў. У жыхарах вёскі Літва яны так і не ўбачылі сваіх супляменнікаў, але абыходзіліся з імі вельмі паважліва, не ўчынілі ніякай гвалтоўнай акцыі. Пасля той незвычайнай мірнай сустрэчы з літоўцамі дзед з бабаю па-ранейшаму жылі ў страху, што могуць у любы момант быць пакараны акупантамі з-за сына-партызана. На шчасце, такога не здарылася: дзед пакінуў зямны свет у 1947-м, а баба – у 1965 годзе.

Затое не так шанцавала маім дзеду з бабай у дачыненнях з партызанамі. Акрамя партызана Валодзі, змаганне з ворагам, але ўжо ў франтавых умовах, вёў яшчэ і іх сын Ванька. Да вайны працаваў трактарыстам у Койданаўскай МТС. Добра зарабляў, не выпіваў (вялікім цвярэзнікам быў яго тата), таму меў у што адзецца і абуцца. У гады акупацыі адны яго боты насіў брат Валодзя, як пайшоў у партызаны, а другія хавалі ў надзейным месцы ў хаце. Відаць, па падказцы кагосьці з наводчыкаў на пачатку вясны 1943 года нечакана ў хату Сымона позна ўначы ўваліліся на добрым падпітку тры партызаны і сталі настойліва, з пагрозай патрабаваць аддаць ім пару ботаў.

– Як жа я вам аддам, – кажа Сымон, – калі іх носіць такі ж партызан, як і вы, – мой сын Валодзя?

Дзед хацеў і яшчэ штосьці сказаць пра Ваньку і Валодзю, але адзін з партызанаў закрычаў:

– Мы прыйшлі па боты, а не слухаць байкі пра вашых сыноў. Не жадаеце па-добраму аддаваць, дык уволю атрымаеце шомпалаў.

Як толькі жонка Сымона Марыля зразумела, што гэта зусім не жартачкі, што яго і сапраўды збіраюцца біць, яна хуценька памкнулася з хаты, прыгаворваючы:

– Не біце Сымона, я зараз прынясу боты.

Партызаны паверылі і адклалі сваю экзекуцыю. Марыля ж з усёй моцы кінулася на вуліцу, крычучы, колькі мела сілы:

– Людзі добрыя! Партызаны Сымона б'юць!

Яе крыку нельга было не пачуць ні партызанам, ні суседзям, хаця і ўначы адбывалася такое, калі людзі спалі. Некаторыя з іх павыходзілі на двор ці на вуліцу. А Марыля ўсё крычыць і крычыць дый так, што аж партызанам стала не па сабе. Выцяўшы колькі разоў Сымона шомпалам па мяккім месцы, яны хуценька пакінулі хату, стараючыся асабліва не трапляць на вочы людзям.

Рэшту ночы Сымон з Марыляй не спалі. У Сымона добрага сну не было і ў наступныя ночы, бо не адну з іх па вядомай прычыне даводзілася спаць толькі на жываце. Вось дзе проста несусветная несправядлівасць: два сыны ваююць на баку савецкай улады, а тры яе прадстаўнікі ў статусе партызанаў займаюцца рабаўніцтвам у сям'і іх бацькоў. Дзядзька Валодзя і шмат гадоў пазней згадваў пра гэта з вялікім абурэннем.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ЛИЧНОСТЬ

# Юрий ЯКОВЕНКО, художник-график: «И не надо мне рассказывать про вдохновение, которое приходит по ночам…»



**Пожалуй, далеко не каждый художник может похвастаться тем, что его работы есть у Папы Римского. А вот гродненский график Юрий Яковенко может. К слову, иллюстрированная им «Песня о зубре» есть не только в библиотеке Ватикана. Уникальное издание украшает книжные коллекции португальского президента и даже британской королевы! И тем не менее к своей персоне Юрий Владимирович относится весьма и весьма критически. Вот и моей просьбе об интервью он искренне удивился, но не отказал. В мастерскую известного белорусского офортиста я постучалась в самый разгар рабочего дня.**

– Ну, давайте попробуем, побеседуем… – вздыхает *Юрий Яковенко, с неохотой отодвигая в сторону изысканную миниатюрную гравюру, и терпеливо объясняет:* – Что это такое? Сон, мечта… Сейчас появился китайский коллекционер, которому очень нравятся мои офорты. Так что это заказ.

**– Но где китайский коллекционер, а где гродненский график!**

– Наверное, глупо скрывать, что у меня есть агент – Герард Полдерман. Он живет в Голландии. Мы познакомились 23 года назад и до сих пор работаем вместе. Переговоры, клиенты – человек в этом как рыба в воде. Я вообще иногда думаю: а хорошо бы каждому белорусскому художнику иметь такого вот талантливого коммерсанта. Ведь можно хоть с головы до ног обставиться шедеврами, но как их потом продать?

**– Как прозаично…**

– А в графике вообще очень мало поэзии. Ты хоть головой о стену бейся, но все эмоции, страсти, будь добр, уложи в одну точку.

**– Рано осознали, что живопись не ваша история?**

– Еще в «Парнате». Как акварель – так беда какая-то просто! И вроде бы синяя тряпочка – но у меня она какая-то всегда несвежая, замученная. Зато ватман, тушь, перо: тут уж мне равных не было.

**– Чувство графичности?**

– Я часто об этом думаю. Вот Рембрандт – великолепный ведь живописец, уникальный, а по сей день считается одним из лучших офортистов. Смотришь – столько воздуха, столько напряжения внутри! Бог его знает, как ему это удавалось. А Дюрер! Какое гениальное чувство маленького и большого! И это при том, что он тоже занимался живописью. Наверное, кому-то это чувство графичности дано, а кому-то нет.

## Сам себе хозяин

**– Признаться, я настраивалась на беседу в атмосфере творческого беспорядка. Но у вас же здесь все просто идеально! Это что – тоже из любви к линиям?**

– Как-то искал себе мастера-печатника. Пришел на встречу, смотрю: туфельки у человека блестят, брючки отглажены, манишка белоснежная, в мастерской чистота. Ну, думаю, еще один чистоплюй – надо сотрудничать.

**– Может, у вас еще и обед по графику?**

– И в мастерскую как на работу. С восьми утра и до шести-семи вечера. И не надо мне рассказывать про вдохновение, которое приходит по ночам. Даже музе можно написать расписание.

**– Но творческой свободой вы дорожите, не так ли?**

– Ну а как можно пойти на какую-то службу, когда вы вкушаете этот запретный плод под названием «сам себе хозяин»? Хотя я честно пытался. Преподавал в университете: сначала на 0,5 ставки, потом на 0,25. И – полное разочарование. Студентам не интересно, глаза пустые. А хочется ведь отдачи. И я сейчас не про деньги.

**– Может быть, самые увлеченные уехали учиться в Минск?**

– Порой начинаешь смотреть вокруг: этому за пятьдесят, тому за шестьдесят, а молодежи-то в Гродно и нет, вот в чем дело. А это же подпитка, лакмусовая бумажка. Если ты интересен молодому коллеге – есть еще возможность пожить как художнику.

## Сумасшедшие деньги

**– Кажется, художником вы стали не благодаря, а вопреки. Родители ведь были против вашего выбора?**

– Вплоть до 11-го класса мама мечтала, что я буду военным. Всяческие уловки находила, уговаривала даже поступать в Ленинградское картографическое училище. Мол, какая разница – карты рисовать или картины. Ну не понимали родители, что это за профессия такая – художник. Ты где-то работаешь? Нет. У тебя есть стабильная зарплата? Да не смешите! Может, на службу, а творчеством по выходным заниматься? Вот такие разговоры у нас были.

**– Приходилось доказывать?**

– Именно. И доказывать, что это действительно работа – очень тяжелая и кропотливая. И что могут быть какие-то успехи. Я ведь, как только закончил Академию искусств, сразу же получил Гран-при на испанском конкурсе. По тем временам – сумасшедшие деньги, три с половиной тысячи долларов. Наивный: надеялся, что так и буду чемоданы купюр зарабатывать. Но не получилось.

**– И все же покупатели находятся, не так ли?**

– Знаете, как это чаще всего происходит? На живопись денег хватает? Нет. На скульптуру? Тоже с трудом. Остается или колокольчики коллекционировать, или графику. Колокольчики как-то уж совсем по-мещански, поэтому – давай-ка, дорогая, лучше гравюры покупать.

## Экземпляр для Папы Римского

**– Плох тот актер, который не мечтает сыграть Гамлета. Плох тот график, который не мечтает проиллюстрировать…**

– Если без ложной скромности, самую главную книгу в мировой истории я уже проиллюстрировал. Это «Песнь Песней Соломона». Ох, и попила она у меня кровушки! Сюжета как такового нет, персонажей всего ничего, и при этом каждое слово – архиважное. Кстати, как и «Песня о зубре», это было коллекционное издание. Всего несколько десятков экземпляров.

**– Ну, с Гусовским у вас и вовсе все лихо вышло!**

– Да это вообще была шальная идея. Ведь Гусовский уехал, поэму написал, в Италии ее не издали. И тут судьба дарит мне возможность замкнуть этот круг. И не просто издать книгу, а еще и подарить ее Папе Римскому! Вообще, это был удивительный период моей жизни. Два года мы делали в Италии эти 130 экземпляров. Дышали буквально над каждой буквой.

**– Что-то из тиража осталось?**

– Есть еще и книги, и папки. Правда, совсем немного. Цена, конечно, немаленькая: от 600 до 3000 долларов. Тут уж исходя из возможностей и желаний покупателя.

**– Вышла книга, и на следующий день ты проснулся знаменитым – кажется, эта история не про книжного графика?**

– А самое трудное как раз и начинается после презентации. Приходишь домой – и тишина. Никто не звонит, ничего не просит, и такое разочарование, вы не представляете! Из кризиса помогает выйти только работа.

## Лобовое прочтение

**– Художник-график – профессия второй половины жизни?**

– С годами приходит ремесло. Становится понятнее «как», но все сложнее отвечать на вопрос «зачем?».

**– И даже зритель не вдохновляет?**

– А вот здесь врать не буду: для меня зритель имеет огромное значение. В конце концов месяцами сидеть, как монах, взаперти и потом самому всем этим любоваться – глупо. Любой художник стремится показать свои работы. И каждый, как мне кажется, надеется на какую-то реакцию.

**– Какой ждете вы?**

– Мне совершенно не интересно, положительный это отклик или отрицательный. Главное – рефлекс, когда подходят и говорят: «Господин Яковенко, объясните… Вроде мое, а понять не могу. Вроде нравится, а вроде и отталкивает». Зацепить – вот что для меня самое важное.

**– И «не могу понять» для вас комплимент? Я правильно поняла?**

– Помню, как в академии после каждого просмотра Василий Петрович Шарангович сокрушался: «Ну когда мы перестанем делать кроссворды? Все должно быть ясно, читабельно и понятно». А я всю жизнь смотрел на свои работы и думал: господи, ну как же просто! Надо усложнять *(смеется)*.

**– И, кажется, вы до сих пор пытаетесь убежать от простоты.**

– Наверное, потому, что мне самому не интересно лобовое прочтение. Не зря же у меня все заставлено энциклопедиями по символике. Многозначительная, многослойная, она всегда с новыми оттенками, смыслами. Это бесконечный путь постижения и поиска. Другое дело, я же не виноват, что люди всего этого не знают и не читают.

## Нужный ракурс

**– Юрий Владимирович, быть графиком – дорогое удовольствие?**

– В Беларуси: своей хорошей офортной бумаги нет, покрывных лаков нет, игл нет, цинка нет. Все привозное, и все втридорога. В Италии пачка нужной мне бумаги стоит 75 евро, а здесь я за нее же заплачу 250. А из Италии я много привезу? Да меня же на границе разорят! Вот и делайте выводы.

**– А спонсорская помощь? В мире это довольно известная практика – покровительствовать талантливым людям.**

– Надеяться на богатого дядю, конечно, можно. Но только богатые дяди заняты пока джипами, коттеджами и отдыхом за океаном. И их право, они эти деньги заработали. Хотя, может, и не стоило бы покупать джип за сорок тысяч долларов. Можно купить за двадцать, а остальную половину дать Пантелееву *(известный гродненский скульптор Владимир Пантелеев. – Авт.)*, пусть сделает скульптуру и снизу на постаменте выбьет твое имя. Машину через 20 лет ты выкинешь, а это будет стоять веками.

**– У вас для вечности тоже кое-что найдется, не так ли?**

– Да бросьте! Сядешь, бывает, в мастерской, посмотришь на все эти тысячи листков, папок и думаешь: и что дальше? А кому все это передать? Детям? У них уже своя, другая жизнь.

**– Не пошли по стопам знаменитого отца?**

– Старшая дочь заканчивает консерваторию, играет на флейте. Сын, как и я когда-то в детстве, серьезно занимался футболом, но сейчас на распутье. Поэтому пока просто сосредоточились на учебе.

**– Семейный тыл прикрывает супруга? Нелегко ей, наверное, с вами.**

– А я предупреждал. Даже книжки давал ей читать про художников. И что вы думаете? Она не художников жалела, а их любовниц! Ах, какая несчастная герцогиня Альба! А я ей говорю: «Да ты не то читаешь! Гойю надо жалеть!»

**– Сколько лет вы уже вместе?**

– 24 года. Когда поженились, мне было 29, а ей 30. По тем меркам поздновато, конечно. Но, может, оттого нам и легче. Мы очень быстро поняли, что совсем не обязательно хлопать дверью и бить посуду. Какие-то вещи можно объяснять друг другу тихо.

**– Профессия ведь не много оставляет свободных минут?**

– И дело даже не в том, что у меня нет выходных. Любая жена художника вам скажет, что ревнует не к мастерской, а к образам, к таинственным и вымышленным незнакомкам. И начинается: «Скажи, что любишь! Нет, ты недостаточно тепло сказал». А как я могу, когда у меня в голове незнакомка, а я еще не нашел нужный ракурс?

**Алина СТРАШКЕВИЧ.**

**Фото Сергея КУРИЛО.**

